Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 5 (4856) 5 лютага 2016 г.



**СПЕЦЫЯЛЬНЫ ВЫПУСК ДА XXIII МІНСКАЙ МІЖНАРОДНАЙ КНІЖНАЙ ВЫСТАЎКІ-КІРМАШУ**

# Цывілізацыя кніжнікаў

**Тэхналогія перавярнула свет… Мы думаем — цяпер. А можа, амаль пяць стагоддзяў таму, калі Гутэнберг запусціў свой станок? Ці ўвесь час так было, як толькі чалавек стаў думаць: ён разумны, а розумам трэба дзяліцца, як і ведамі, усімі магчымымі спосабамі. Гліняныя клінапісныя таблічкі, папірусы з мудрагелістымі значкамі, іерогліфы на рысавай паперы ці літары на бяросце...**

Рукапісы, якія не згарэлі, — кнігі, што пакінулі пасля сябе розныя цывілізацыі, але менавіта па гэтых пісьмовых узорах можна меркаваць пра іх спеласць і ўзровень. Іх няма, а памяць засталася. Таму што былі людзі, якія закладвалі інфармацыю ў асобныя сімвалы, пісалі і перапісвалі, занатоўвалі і распаўсюджвалі, перадавалі веды і пашыралі свядомасць да памераў Сусвету, які імкнуліся спасцігнуць глыбей. Каб узняцца на новы цывілізацыйны віток.

Францыск Скарына ведаў, што робіць: ім кіравала апантанасць не тэхналогіяй, а думкай, якую хацелася данесці праз новыя магчымасці. У той час, у тых умовах ён наўрад ці меў трывалы пункт апоры, але здолеў перавярнуць свет праз кнігадрукаванне — на сваёй радзіме і не толькі... Ён вучыў верыць у чалавека як істоту мэтанакіраваную, якой хочацца ўдасканальваць сябе. Услед за ім іншыя аптымісты падхапілі справу, пакрысе фарміруючы асяродак чытачоў, які пашыраўся ад стагоддзя да стагоддзя, а цяпер у нашай краіне ён вымяраецца мільёнамі. Усё ж свет перавярнула не тэхналогія, а створаная ёй кніга — як крыніца ведаў і скарбонка мудрасці, сапраўднае ўвасабленне гуманізму: усё больш і больш людзей маглі далучацца да яе.

Дзеля іх працуюць тыя, каму ёсць пра што сказаць у кнігах, і тыя, хто іх выдае. Нехта клапоціцца, каб у кожнай кнігі быў чытач. Ці каб у кожнага чалавека была магчымасць адшукваць у моры кніг патрэбныя менавіта яму. Усе апантаныя кніжнікі і проста чытачы Беларусі чакаюць адкрыцця 10 лютага XXIII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу. Таму што ёсць кнігі, створаныя з любоўю да нас, патрабавальных прадстаўнікоў сучаснага свету.

Чытайце на стар. 8




Фота Касцуся Дробава.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка падпісаў два ўказы аб прысуджэнні дзяржаўных узнагарод. Сярод узнагароджаных ордэнам Францыска Скарыны — вядучы майстар сцэны Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа Тадэвуш Кокштыс, медалём Францыска Скарыны — акцёр кіно, каскадзёр і пастаноўшчык трукаў, член Беларускай гільдыі акцёраў кіно Генадзь Чацверыкоў. Заслужаным артыстам Беларусі стала вядучы майстар Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа Галіна Букаціна, заслужаным дзеячам мастацтваў Беларусі — загадчык кафедры інструментоўкі Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Вячаслаў Кузняцоў і іншыя.

✔ Кіраўнік дзяржавы павіншаваў народнага артыста Беларусі Уладзіміра Пятрова з 60-гадовым юбілеем. «Дзякуючы высокаму прафесіяналізму, моцнаму, тэмбральна багатаму голасу і яркай артыстычнай індывідуальнасці Вы сталі адным з вядучых салістаў Вялікага тэатра Беларусі, — гаворыцца ў віншаванні. — Створаныя Вамі драматычныя вобразы вылучаюцца шматграннасцю, глыбінёй, асаблівым выкананнем і непаўторнасцю ўвасаблення». Аляксандр Лукашэнка пажадаў юбіляру невычэрпнага натхнення, новых творчых вышынь, здароўя, шчасця і дабрабыту.

✔ Прэзідэнт Беларусі павіншаваў народную артыстку Расіі Веру Глаголеву з юбілеем. Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што ў Беларусі Веру Глаголеву ведаюць і любяць як таленавітую актрысу, паспяховага рэжысёра і прадзюсара. «Вы сыгралі нямала яркіх, запамінальных роляў, якія нязменна прыцягваюць гледачоў глыбінёй характару, шчырасцю, выразнасцю і жаноцкасцю. А зняты Вамі карціны атрымалі прызнанне прафесіяналаў і папулярнасць у шматлікіх аматараў кіно», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Віцэ-прэм'ер Беларусі Наталля Качанава на пасяджэнні калегіі Апарату Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцей паставіла задачу вырашыць пытанне недахопу спецыялістаў-рэстаўратараў. Намеснік прэм'ер-міністра падкрэсліла, што работы па рэстаўрацыі і рэканструкцыі на помніках гісторыка-культурнай спадчыны ў рэгіёнах неабходна весці больш актыўна, а грашовыя сродкі, якія вылучаюцца па дзяржінвестпраграме, павінны быць асвоены цалкам і максімальна эфектыўна. Гэта дасць магчымасць і далей развіваць турызм, прыцягваць у краіну замежных гасцей.

✔ У Парыжы Пасольствам Беларусі ў Францыі, Культурным цэнтрам Беларусі ў Францыі і прадстаўнікамі беларускай дыяспары французскай сталіцы было арганізавана свята беларускіх Калядак. На вечары гучалі народныя песні ў выкананні калектыву «Вечарына» з Мінска, а таксама творы беларускай грамадзянкі Стэфаніі Гаспар, якая жыве ў Парыжы, у выкананні яе сямейнай групы «*New Angels*». Калядкі ўжо сталі добрай традыцыяй і выклікаюць зацікаўленасць у грамадстве.

✔ Беларускі піяніст Расціслаў Крымер у дуэце са знакамітым расійскім скрыпачом Сяргеем Крыловым выступілі ў найстарэйшым оперным тэатры ў Фларэнцыі ў адной з самых вядомых канцэртных серый свету — *Amici della Musica Firenze*. У экспертным асяродку канцэрт Расціслава Крымера і Сяргея Крылова ўжо назвалі падзеяй культурнага жыцця кшталту выступленняў Лонданскага і Венскага аркестраў.

## ГОДныя справы

# Культурны акцэнт

Год культуры насычаны на падзеі, так што жыхары Беларусі ўжо могуць рыхтавацца да цікавых вандровак па рэгіёнах.

Урадам сумесна з аблвыканкамамі і Мінскім гарвыканкамам да Года культуры распрацаваны Рэспубліканскі план мерапрыемстваў, дзе культура праяўляецца ў розных сферах дзейнасці: культура сямейных адносін і побыту, вытворчасці і земляробства, добраўпарадкавання населеных пунктаў. І, натуральна, значную ўвагу атрымае мастацкая культура, якая з году ў год праслаўляе нашу краіну таленавітымі творцамі.

На працягу года ў розных гарадах Беларусі прадугледжваецца комплекс мерапрыемстваў да знакавых юбілейных дат: 125-годдзе з дня нараджэння Максіма Багдановіча, 120-годдзе з дня нараджэння Кандрата Крапівы, 95-годдзе з дня нараджэння Івана Шамякіна, 75-годдзе Уладзіміра Мулявіна і іншыя. У ліпені 25-гадовы юбілей адзначыць Міжнародны фестываль мастацтваў у Віцебску «Славянскі базар», канцэпцыя якога, абяцаюць арганізатары, значна зменіцца.

Паводле Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, дні беларускай культуры будуць праходзіць не толькі ў гарадах і рэгіёнах нашай краіны. Плануецца, што за мяжой людзі таксама змогуць даведвацца пра нашы нацыянальныя каштоўнасці і традыцыі. Напрыклад, у Ватыкане плануюць правесці выстаўку праваслаўных і каталіцкіх ікон з Беларусі. Працягнецца і выкананне мерапрыемстваў праграмы «Замкі Беларусі». А ў Слуцку, якому споўніцца 900 год, будзе ўсталяваны помнік знакамітай княгіні Анастасіі Слуцкай. У вёсцы Азярцо адбудзецца прэзентацыя рэканструяваных лецішча-музея Васіля Быкава і царквы. Сёлета будзе актыўна весціся падрыхтоўка да святкавання юбілеяў беларускіх класікаў Янкі Купалы і Якуба Коласа ў 2017 годзе. Павінна завяршыцца рэканструкцыя кінастудыі «Беларусьфільм».

У краіне плануецца шэраг міжнародных фестываляў, канцэртаў і творчых форумаў. Пройдуць мерапрыемствы па падтрымцы творчай моладзі, мяркуецца прыняць Кодэкс аб культуры, які і прадугледжвае рэгуляванне грамадскіх адносін у гэтай сферы. Дзякуючы актыўнаму супрацоўніцтву дзяржавы і мецэнатаў, сёння ў нашай краіне рэалізуюцца цікавыя міжнародныя, рэспубліканскія і рэгіянальныя праекты.

**Вікторыя АСКЕРА**

## Актуальна

# Беларусь прыцягальная



**На пасяджэнні калегіі Апарату Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцей былі абмеркаваны з прадстаўнікамі нацыянальна-культурных і рэлігійных аб'яднанняў, органаў улады і дзяржаўнага кіравання з розных рэгіёнаў Беларусі вынікі працы ў 2015 годзе.**

У межах пасяджэння абмеркавалі тэму развіцця царкоўнага турызму ў нашай краіне. Удзельнікі калегіі пагадзіліся, што ў рэлігійнай сферы Беларусі ёсць што паказаць і патлумачыць замежным турыстам. Яны прапанавалі, каб святары ў розных кутках нашай краіны паспрабавалі праявіць сябе ў ролі гідаў у сваіх храмах. Такая практыка была б карыснай для прыцягнення ўвагі не толькі турыстаў. Мясцовыя жыхары таксама не заўсёды ведаюць гісторыю свайго храма, а тым больш у іншым горадзе.

Падчас абмеркавання Упаўнаважаны па справах рэлігій і нацыянальнасцей Леанід Гуляка звярнуў увагу на пытанні падрыхтоўкі святароў. Захоўваецца неабходнасць запрашэння ў нашу краіну замежных святароў, якія часцей за ўсё не ведаюць нацыянальных моў Беларусі, у выніку зрэдку выкарыстоўваюць іх падчас службы, што выклікае незадаволенасць і скаргі вернікаў.

Вялікая ўвага на пасяджэнні была нададзена Рэспубліканскаму фестывалю нацыянальных культур, які праходзіць у нашай краіне з 1996 года. Леанід Гуляка паведаміў, што ў гэтым годзе фестываль адбудзецца ў Гродне 3—4 чэрвеня і збярэ прыкладна васемсот удзельнікаў. Ён падкрэсліў, што фестываль з кожным годам мацнее і спрыяе збліжэнню, аб'яднанню нацыянальнасцей, якія пражываюць на тэрыторыі Беларусі, а таксама дапамагае і самім беларусам захоўваць нацыянальную спадчыну, узбагачаць культуру свайго народа.

**Вікторыя АСКЕРА**

## У літаратурным асяродку

# Лірычны баль, сямейнае чытанне…

Усусветна вядомым палацы валадарыла вершаванае слова. На Балі сучаснай паэзіі ў тэатральнай зале палаца Радзівілаў Нацыянальнага гісторыка-культурнага музея-запаведніка «Нясвіж» сваю творчасць прадставілі майстры лірычнага пяра. Сярод іх — Валянціна Паліканіна, Анатоль Аўруцін і Міхась Пазнякоў. А яшчэ — маладая паэтэса, кандыдат у члены Саюза пісьменнікаў Беларусі, аўтар трох кніг паэзіі Ганна Мартынчык.

Адкрыў Баль паэзіі старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў, які распавёў пра планы работы аддзялення і Саюза пісьменнікаў Беларусі ў Год культуры, пра адкрыццё Мінскага гарадскога Тэатра паэзіі. Апрача вершаў, у палацы гучала музыка. У канцэрце бралі ўдзел і студэнты сталічных ВНУ.

Днямі ў межах акцыі «Сямейнае чытанне» вучні малодшых класаў гімназіі № 11, якія завіталі ў сталічную дзіцячую бібліятэку № 10, сустрэліся з пісьменнікам Анатолем Зэкавым, кнігі якога — «Мянтуз сярод мядуз», «Зязюля Гулюля», «Як Гаўка ў космас збіраўся», «Вожык вёз сараканожак» — у розныя гады пабачылі свет у Выдавецкім доме «Звязда». Пісьменнік распавёў вучням казку «Яблыня і Гарбуз», прачытаў вершы з названых кніг, загадаў загадкі і вершаваныя матэматычныя задачкі. Пасля сустрэчы гімназісты змаглі набыць кнігі Анатоля Зэкава і атрымаць аўтограф.

Госцем літаратурна-музычнай імпрэзы, што прайшла ў сталічнай дзіцячай бібліятэцы № 6 імя В. Віткі, стаў пісьменнік Мікола Чарняўскі. Аўтар прэзентаваў сваю чарговую кнігу «Дзе схаваўся цень удзень?». Падчас імпрэзы вершы гучалі ў выкананні не толькі самога творцы, але і з вуснаў юных чытачоў — чацвёртакласнікаў сярэдняй школы № 105. Сапраўдным падарункам і галоўнаму герою, і публіцы стаў спектакль тэатра «Пацешка», што працуе на базе бібліятэкі, паводле твора з новай кнігі аўтара, распавяла чытачка «ЛіМа» Таццяна Макарэвіч.

Творчая сустрэча з айчынным пісьменнікам і вучоным Валянцінам Талкачовым «XXI стагоддзю — здаровае пакаленне!» адбылася ў сталічнай бібліятэцы № 22 у межах чарговага пасяджэння літаратурнага клуба «Шчырасць». Падчас мерапрыемства Валянцін Талкачоў, ганаровы акадэмік Міжнароднай акадэміі геранталогіі і член Саюза пісьменнікаў Беларусі, прэзентаваў сваю новую кнігу «З пяром і заплечнікам», распавяла супрацоўніца сталічнай бібліятэкі № 22 ЦБС Раіса Граблюк.

**Дзіна ДОЛЬСКАЯ**

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**9 лютага** — *на творчую сустрэчу з пісьменніцай Ірынай Лявонавай у публічную бібліятэку № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак а 12-й гадзіне.*

**10 лютага** — *у літаратурны клуб «Аўтограф» (вул. Карбышава, 42) на творчую сустрэчу з пісьменнікам-гумарыстам Васілём Найдзіным. Пачатак а 16-й гадзіне.*

**11 лютага** — *на паэтычна-музычную імпрэзу «Наталенне Радзімай», прысвечаную 65-годдзю пісьменніка Міхася Пазнякова. Мерапрыемства пройдзе ў літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа (вул. Акадэмічная, 5). Пачатак а 17-й гадзіне.*

**Віцебскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**5 лютага** — *на падвядзенне вынікаў міжнароднага літаратурнага конкурсу «Души прекрасные порывы»-2016 і Пушкінскі баль. Мерапрыемства адбудзецца ў Віцебскай гарадской гімназіі № 3 імя А. С. Пушкіна. Пачатак а 15-й гадзіне.*

# Больш за 100 твораў — у гонар «Сымона-музыкі»

**Славуты твор «Сымон-музыка» Якуба Коласа адзначаў юбілей у год, абвешчаны ў нашай краіне Годам моладзі.**



Фота Кастуся Дробава.

*«Сымон-музыка» з плошчы Якуба Коласа ў Мінску (работа Заіра Азгура).*

Шматлікія мерапрыемствы, арганізаваныя музеем у 2015 годзе, так ці інакш былі звязаны з 90-годдзем «Сымона-музыкі». Гэта і свята да Міжнароднага дня музеяў, і навукова-практычная канферэнцыя «Каласавіны», і адкрыццё выстаўкі з фонду Дома Коласа «То не музыка — натхненне» ў Музеі-кватэры А. А. Блока (філіял Дзяржаўнага музея гісторыі Санкт-Пецярбурга, г. Санкт-Пецярбург). Апошняя стала надзвычай яскравай падзеяй і прыцягнула вялікую колькасць наведвальнікаў. Выбар горада на Няве ў дадзеным выпадку не быў выпадковым, бо ліра-эпічная паэма Якуба Коласа «Сымон-музыка» па напісанні набліжана да паэзіі сімвалізму Сярэбранага веку, якая непарыўна звязана з культурнай сталіцай Расіі.

Маштабным мерапрыемствам стала і сацыяльна-культурная акцыя «Міжнародны дзень чытання "Сымона-музыкі"», у якой узялі ўдзел як жыхары Беларусі, так і нашыя суседзі з Расіі, Літвы і Украіны.

Заключным акордам юбілейнага года стала падвядзенне вынікаў конкурсу да 90-годдзя паэмы «Сымон-музыка» «…І, здавалася, жывое нешта йшло ад гэтых струн…», зладжанага музеем сумесна з Саюзам пісьменнікаў Беларусі. Радкі паэмы неадназначна натхнялі прадстаўнікоў самых розных творчых прафесій — мастакоў, скульптараў, пісьменнікаў, музыкаў. Для сённяшняга пакалення славуты твор Песняра — невычэрпная крыніца натхнення і творчых пошукаў. Конкурс, на які было даслана больш за 100 работ з розных куткоў нашай краіны, стаў яскравым таму пацвярджэннем. Прадаставіць свае творы на суд кампетэнтнага журы маглі ўсе жадаючыя: і вучні пачатковай школы, і людзі сталага веку. Высокі ўзровень дасланых літаратурных, мастацкіх, музычных работ сведчыў як пра асаблівую цікавасць да спадчыны народнага паэта Беларусі, так і пра велізарную колькасць талентаў, на якія багатая наша зямля, талентаў, якія, як і герой паэмы Сымонка, спрыяюць духоўнаму адра-джэнню краіны.

У склад журы конкурсу ўваходзілі вядомыя беларускія паэты, мастакі і дзеячы культуры: Зінаіда Камароўская, дырэктар Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа; Генадзь Пашкоў, першы сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі; Казімір Камейша, паэт, перакладчык; Анатоль Зэкаў, паэт, празаік; Рыгор Сітніца, кіраўнік Беларускага саюза мастакоў; Анатоль Гармаза, мастак, генеральны дырэктар ААТ «Рэдакцыя газеты "Шапакляк"»; Сяргей Кляшчук, народны майстар-разьбяр. Дзякуючы праведзенай імі рабоце ніхто з удзельнікаў не застаўся без увагі. Адзначаны пераможцы ў розных намінацыях, многія ўдзельнікі былі ўзнагароджаны спецыяльнымі прызамі ад Дома Коласа і рэдакцыі газеты «Шапакляк», а тыя, хто не заняў прызавога месца, — падзякамі і памятнымі сувенірамі. Мэта арганізатараў конкурсу — выхаванне любові і цікавасці дзяцей і дарослых да беларускай літаратуры і культуры, папулярызацыя спадчыны Якуба Коласа, падтрымка і заахвочванне таленавітых творцаў.

**Настасся ТРАФІМЧЫК,**
**намеснік дырэктара па навуцы Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа.**

# «Скульптар» музычнага жыцця

Настаўнік, музыкант, асветнік, кіраўнік... Ці могуць гэтыя іпастасі спалучацца ў адным чалавеку? Вядома. Такім застаўся ў памяці многіх людзей Васіль Мікалаевіч Варатнікоў, адзін з першых дырэктараў Дзіцячай музычнай школы мастацтваў № 2 імя М. І. Аладава. Несумненна, яго насычаная творчая дзейнасць пакінула вялікі след у музычным жыцці краіны, у сувязі з чым яму было прысвоена званне заслужанага дзеяча культуры БССР. Праз 30 доўгіх гадоў па ініцыятыве яго былых вучняў і педагагічнага калектыву пачалася праца па адраджэнні памяці гэтага таленавітага кіраўніка і педагога, сэнсам жыцця якога было бескарыслівае служэнне мастацтву і сцвярджэнне духоўных каштоўнасцей.

Гісторыя дзіцячай музычнай школы мастацтваў № 2 імя М. І. Аладава пачалася ў 1949 годзе, а праз шэсць гадоў малады яшчэ выкладчык, а неўзабаве і дырэктар Васіль Варатнікоў як таленавіты скульптар пачаў «ляпіць» сваё стварэнне, зрабіўшы ўстанову адукацыі ўзорна-паказальнай, дамогшыся прысваення ёй імя знакамітага беларускага кампазітара.

Раней Васіль Варатнікоў працаваў выкладчыкам класа харавога дырыжыравання ў кансерваторыі, кіраваў хорам у Доме культуры Мінскага аўтазавода, быў загадчыкам вучэбнай часткі ў Мінскім музычным вучылішчы імя М. І. Глінкі. Амаль дваццаць пяць гадоў творчай працы Васіль Мікалаевіч прысвяціў выхаванню маладога пакалення, увасабляючы найбольш эфектыўныя педагагічныя прынцыпы арганізацыі музычнай адукацыі і навучання дзяцей у школе. У 1979 годзе пасля цяжкай хваробы Васіля Варатнікова не стала.

Агульнавядома, што музычная грамадскасць часцей адзначае юбілей якога-небудзь выбітнага кампазітара, артыста альбо грамадскага дзеяча. А вось юбілей таленавітага педагога ці дырэктара школы — з'ява неардынарная і вельмі рэдкая, асабліва ў музычна-адукацыйнай сістэме. Сёлета, 26 студзеня, у школе адбылася прэзентацыя кнігі пра Васіля Варатнікова, прымеркаваная да 95-годдзя з дня яго нараджэння. Назва гэтага зборніка артыкулаў — «Варатнікоў В. М. — музыкант, асветнік, інтэлігент» — абрана невыпадкова: кожны артыкул — успаміны не толькі пра настаўніка, калегу, грамадскага дзеяча, але і пра душэўнага і таленавітага музыканта.

Кніга складаецца з пяці раздзелаў. У першым апісваецца педагагічны досвед Васіля Варатнікова на аснове шматгадовага аналізу працы дырэктара і яго калектыву. У іншых частках выдання можна знайсці больш як дзясятак артыкулаў педагогаў, якія былі сябрамі і вучнямі Васіля Мікалаевіча. Многія з іх сталі вядомымі музычнымі выканаўцамі, кандыдатамі навук, прафесарамі.

**Валянціна ЯШЧАНКА**

# Літ-вандроўкі ў Малдову

Днямі на «круглы стол» «Беларуска-малдаўскія літаратурныя сувязі на сучасным этапе» ў Выдавецкім доме «Звязда» сабраліся тыя, хто ўважліва ставіцца да малдаўскай культуры і літаратуры. Да зацікаўленай размовы пра тое, як аб'яднаць літаратурныя намаганні творцаў дзвюх краін для больш выніковага супрацоўніцтва, далучыліся першы сакратар Пасольства Рэспублікі Малдова ў Рэспубліцы Беларусь Таццяна Чаркез, дырэктар — галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда» Алесь Карлюкевіч, прадстаўнікі малдаўскай дыяспары ў Рэспубліцы Беларусь Дзмітрый Ліку, Васіль Семянюк і іншыя зацікаўленыя асобы.

Дырэктар — галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда» Алесь Карлюкевіч пачаў сустрэчу з таго, што ў беларуска-малдаўскіх адносін вельмі плённыя літаратурныя традыцыі. Статыстыка сведчыць пра тое, што з 1918 па 1986 год на малдаўскай мове выйшла 35 кніг беларускіх аўтараў, не гаворачы пра сумесныя творчыя здабыткі апошніх дзесяцігоддзяў. Напрыклад, у серыі «Бібліятэка сусветнай літаратуры» адным з першых быў надрукаваны раман малдаўскага пісьменніка. Вынікам шматгадовай увагі Уладзіміра Скарынкіна, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, да паэзіі Малдовы стала стварэнне анталогіі малдаўскай паэзіі на беларускай мове. Кніга выйшла ў канцы 1990-гадоў, знайшла свайго чытача. Пра гэты творчы праект былі крытыка, рэцэнзіі, артыкулы. Пры падтрымцы пасольства адбылася прэзентацыя, удзел у якой бралі і малдаўскія літаратары.

Першы сакратар Пасольства Рэспублікі Малдова ў Рэспубліцы Беларусь Таццяна Чаркез зазначыла, што пасольства вельмі чулліва ставіцца да ўсіх прапаноў. Сёлета ў верасні пройдуць Дні культуры Малдовы ў Беларусі. «На гэтым фоне мы можам рэалізаваць у тым ліку і літаратурныя праекты», — так акрэсліла магчымасць сяброўства творцаў дзвюх краін Таццяна Чаркез, якой прыйшлася даспадобы і ідэя бліжэй пазнаёміць дзяцей Беларусі з амаль нацыянальным героем Малдовы Гугуцэ.

Сумесны беларуска-малдаўскі праект будзе рэалізаваны літаральна на наступным тыдні, падчас правядзення XXIII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу. На галоўнай пляцоўцы вялікага кніжнага свята з падтрымкай Пасольства Рэспублікі Малдова ў Рэспубліцы Беларусь пройдзе прэзентацыя кнігі «Край мой запаветны» з серыі «Сугучча», выдадзенай Выдавецкім домам «Звязда». Кніга прысвечана сучаснай літаратуры Беларусі і Малдовы. Прэзентацыя пройдзе ў лепшых нацыянальных традыцыях малдаўскай культуры. Малдаўскія сябры запрашаюць разам з імі зрабіць літаратурную вандроўку ў запаветныя мясціны сваёй краіны.

*Працяг тэмы ў наступным нумары.*

**Алена СТЭЛЬМАХ**

## Дайджэст

• Самыя маленькія ў свеце зборнік вершаў Максіма Багдановіча і герб Беларусі папоўнілі музейны фонд краіны. Экспанаты перадаў расійскі майстар мікрамініяцюр Анатоль Коненка. Памер кнігі вершаў — усяго міліметр на міліметр. А самы маленькі герб Беларусі здолеў змясціцца і ў шкарлупіну кедравага арэха. Прачытаць гэтую кнігу можна толькі пад мікраскопам. Яна існуе ў адзінкавым экзэмпляры. І ўсе 18 вершаў аўтар выбіраў асабіста. Працы своеасаблівага тульскага Леўшуна Анатоля Коненкі цэняцца ва ўсім свеце. За мініяцюрнымі кнігамі палююць калекцыянеры, яго творы выстаўляюцца ў знакамітых музеях Еўропы. Паглядзець на міні-зборнік Максіма Багдановіча беларусы змогуць у любы час у Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі, а мініяцюрны герб перадалі ў Музей сучаснай беларускай дзяржаўнасці.

• Прэзідэнт Туркменістана Гурбангулы Бердымухамедаў прэзентаваў сваю новую кнігу, у якой выявіў сябе дапытлівым даследчыкам культуры і фальклору народа. Выданне назвалі «Крыніца мудрасці». У кнізе туркменскага лідара сабраны прыказкі, прымаўкі, выказванні аўтарытэтных асоб, якія, на погляд прэзідэнта, спрыялі росту духоўнай культуры жыхароў Туркменістана на працягу стагоддзяў. Варта адзначыць, што гэта не першая кніга Бердымухамедава: два гады таму выйшаў раман «Птушка шчасця», у якім ён у мастацкай форме апісаў жыццё свайго бацькі. Дзеянне адбываецца ў гады Вялікай Айчыннай. Да гэтага туркменскі лідар выдаў ужо шмат кніг. Яго «Палёт нябесных скакуноў» пра ўнікальных коней Туркменістана даўно ўключаны ў абавязковую адукацыйную праграму школ краіны.

• У запасніках лонданскага музея Вікторыі і Альберта выявілі рукапіс невядомай і вельмі ранняй казкі Беатрыс Потэр. Брытанская казачніца і мастачка, якая падаравала дзецям усяго свету вобразы Труса Пітэра, місіс Туф і містара Тода, мела вялікую папулярнасць. І таму не невядомая казка стала значнай падзеяй для прыхільнікаў. Кніга пад назвай «Казка пра Котку ў ботах» — адзін з самых ранніх твораў Беатрыс Потэр. Напісала яна яго задоўга да «Ухці-Тухці» і «Труса Пітэра». Як распавядае выдавец Джо Хэнкс, які знайшоў рукапіс, у «кацінай казцы» прысутнічаюць героі, што нагадваюць сваімі рысамі ўсіх самых яркіх персанажаў Беатрыс Потэр. Казка «пра добрапрыстойную чорную котку», напісаная больш за сто гадоў таму, ужо выйшла ў электронным выглядзе на некаторых сайтах і заваявала поспех у дзіцячай аўдыторыі. Праз восем месяцаў яна выйдзе і ў папяровым варыянце. Ілюстрацыі да казкі зробіць вядомы брытанскі мастак Квенцін Блэйк.

• Навукоўцы апублікавалі вынікі цікавага эксперымента, які дэманструе залежнасць якасці напісанага тэксту ад хуткасці працы аўтара. Высновы будуць карысныя як пісьменнікам, так і супрацоўнікам офісаў. Група навукоўцаў даказала, што чым больш павольна чалавек набірае тэкст на клавіятуры, тым больш літаратурным атрымліваецца тэкст. Для правядзення эксперымента ўдзельнікаў падзялілі на дзве групы. Першая набірала тэкст адной рукой, другая — двума адначасова. Аказалася, што ўдзельнікі, якія набіралі тэкст адной рукой, выкарыстоўвалі ў сваім творы больш вытанчаныя сказы, прадэманстравалі багаты слоўнікавы запас. Тэксты прадстаўнікоў другой групы апынуліся менш літаратурнымі. Псіхолагі тлумачаць такія вынікі дастаткова проста. Пры хуткім наборы тэксту чалавек мае менш часу абдумаць сказ, выкарыстоўваць сінонімы або пабудаваць лагічную слоўную кампазіцыю. Такія людзі запісваюць першае, што прыйдзе ў галаву. Навукоўцы рэкамендуюць пісьменнікам друкаваць павольна і ўдумліва.



**Віктар ШНІП**

## Зямля Фердынанда Рушчыца

**(10.12.1870 — 30.10.1936)**

*у снежні вячэрняя зорка*
*над маёнткам Багданава*
*высока ў небе*
*як агеньчык свечкі каляднай*
*свеціцца свеціцца адзінока*
*але ты не адзінокі адзінокі*
*выходзячы з дома старога*
*у свет*
*ты не эмігрант*
*ты мастак*
*у якога ёсць Зямля*
*і спыняючыся каля касцёла*
*ты думаеш думаеш пра мінулае*
*дзе старыя яблыні*
*і лясны ручай*
*заўсёды чакаюць чакаюць цябе*
*як вясну*
*якая прыходзіць заўсёды*
*каб ворыва чарнела*
*як крылы чорных буслоў*
*што не адлятаюць*
*з нашых зімовых казак*
*калі ідзе вайна еўрапейская*
*як гаспадыня*
*і Крэўскі замак крывавіцца*
*крывавіцца цэглай чырвонай*
*і млын узімку*
*увесь заледзянелы*
*нібы крышталёвы стаіць*
*і апошні снег як попел з каміна*
*у якім ты паліў самоту*
*сыплецца сыплецца сыплецца*
*і бляклае сонца*
*асвятляе спакой у пакоі бабулі*
*і вясна пачынаецца пачынаецца*
*і ў карчме пры дарозе*
*гарыць святло святло святло*
*а вандроўнік едзе на кані*
*з добрымі весткамі*
*з Вільні і з Варшавы*
*куды імкнешся ў думках*
*але ты тут у Багданаве*
*як Ной у сваім каўчэгу*
*плывеш плывеш плывеш у сваіх фарбах*
*у заўтрашні заўтрашні дзень*
*дзе красуюць красуюць мальвы*
*дзе лета ўладарыць*
*дзе пуня і азярод*
*чакаюць чакаюць багатых дажынак*
*а ты ідзеш ідзеш да святых камянёў*
*і сам ты як святы*
*і воблачнае неба з месяцам*
*высока над табою ў Багданаве*
*і вецер восеньскі шэпча шэпча шэпча*
*пра хвалі акіянскія*
*дзе плыве і плыве карабель*
*і ты стаіш стаіш на ім*
*як на краі свету*
*і малюеш малюеш залаты пакой*
*дзе святло як залатая вада*
*і малюеш свяцілішча*
*і вулкі старыя Вільні*
*якія помняць цябе*
*як помніш ты сваю зямлю*
*дзе перад зімой старое гняздо*
*стаіць непахісна*
*прадзьмутае вятрамі вятрамі вятрамі*
*дзе дрэвы адзінокія як факелы*
*якія не тухнуць бо яны тутэйшыя*
*бо яны запалены табой*
*пад небам у белых аблоках*
*дзе сінеюць прагалы*
*як будучы лёд лёд лёд*
*на лясных ручаінах*
*з якіх ты піў піў жывую ваду*
*і натхненне*
*і цяпер на высокім узгорку*
*узвышаецца узвышаецца твой крыж*
*сярод крыжоў родных і вечных*
*як Зямля*
*над якой вячэрняя зорка*
*як свечка ў тваім новым доме*

## Жоўты, жоўтае і залатое

*кожную восень белы свет*
*на нейкі час робіцца жоўтым*
*як палітра мастака*
*які не малюе чорныя квадраты*
*а які любіць сланечнікі*
*і дзьмухаўцовыя лугі*
*жоўтыя як Жоўтае мора*
*якое выйшла з кітайскіх берагоў*
*і затапіла па жоўты ўзровень*
*наш адзінокі белы свет*
*дзе жоўтыя дзюбы ў птушанят*
*дзе кураняты жоўтыя*
*як коцікі вярбовыя*
*жоўтыя жоўтыя жоўтыя*
*над чорнай зямлёй*
*дзе жоўты пясочак*
*як залаты*
*як залаты пясочны гадзіннік*
*для якога няма залатога ланцужка*
*бо ўсё залатое жоўтае*
*як наша БАТЭ*
*што гуляе ў футбол*
*у жоўтай форме*
*нават калі на полі*
*не залатая пара футболу*
*і прайграючы іспанскай «Барселоне»*
*з лікам 0:3*
*і атрымаўшы некалькі жоўтых картак*
*якія як гарчычнікі*
*што горыч прыносяць і лекуюць*
*наша жоўтае БАТЭ*
*застаецца для нас залатым*
*і жоўты балонік ляціць у неба*
*і знікае сярод зорак*
*а магчыма там ужо і не зоркі*
*а жоўтыя балонікі*
*якія час ад часу лопаюцца*
*ад холаду і падаюць знічкамі*
*у залатую арду лістоты*
*з якой змагаюцца дворнікі*
*у жоўтай вопратцы*
*і ты ідзеш у Кафедральны сабор*
*які ты памятаеш яшчэ жоўтым*
*а цяпер ён белы*
*як снег які не растае*
*у якім жоўтыя агеньчыкі свечак*
*як залатыя коскі*
*у сказах пра жыццё і смерць*
*дзе смерці няма*
*і вечарам жоўтыя ліхтары каля сабора*
*як залатыя душы менчукоў*
*слухаюць залатыя словы Бога*
*і ты ідзеш у жоўты тралейбус*
*як у жоўтую падводную лодку*
*якая плыве па акіяне ночы*
*сярод дамоў як рыфаў*
*дзе ёсць жыццё там*
*дзе жоўтыя вокны*
*дзе ў жоўтым доме*
*ты нарадзіўся даўным-даўно*
*калі ў святлафора*
*гарэла жоўтае святло*
*і не было яшчэ вядома*
*будзе далей зялёнае ці чырвонае*
*і жоўтыя таксі*
*як гарадскія анёлы*
*развозілі ўсіх туды куды хто хацеў*
*а ты плыў у жоўтай падводнай лодцы*
*і слухаў восеньскую музыку*
*пажаўцела-залацелай лістоты*
*якая магла паляцець да сонца*
*але выбрала зямлю*
*дзе ёсць жоўтыя фарбы*
*дзе ёсць жоўтая прэса*
*дзе з кропелек мёду*
*і жаўткоў курыных яек*
*зляплена тутэйшае сонца*
*жоўтае жоўтае жоўтае*
*як вялікі жоўты кубак*
*дзе завараны зёлкі*
*ад жоўтай ліхаманкі*
*і ляжыць на маім стале*
*жоўты лімон*
*як вялікая жоўтая кропка*
*якой сёння пазначаны*
*цэнтр жоўтага свету*
*які пачаўся з першага жоўтага лістка*
*што праляцеў праз тваю душу залатую*
*як праз жоўтую*



Фрагмент карціны Фердынанда Рушчыца «Вясна». 1897 г.

## Белы і белае

*калі ствараўся белы свет*
*Бог быў у белай вопратцы*
*з белых аблок як з воўны*
*сшытай белымі ніткамі*
*і белыя анёлы назіралі*
*з белай зайздрасцю*
*як творыцца дабро*
*белае як белы свет*
*у якім белыя галубы*
*як сімвалы міру*
*ляцелі над белым морам зімы*
*дзе ўсё белае як папера*
*на якой яшчэ няма белых вершаў*
*і белага Біма з чорным вухам*
*і сарокі-белабокі*
*якая кашку варыла*
*і дзетак карміла*
*і белы воўк ішоў па снезе*
*а ты курыў Беламор*
*і не думаў пра белыя тапкі*
*і пра белыя халаты*
*маючы белы білет*
*ты быў як белая варона*
*якая заляцела ў рэстаран*
*дзе чорны раяль*
*як мурын з белазубай усмешкай*
*стаяў моўчкі на сцэне*
*чакаючы белых людзей*
*што ішлі праз завею*
*не заходзячы ў рэстаран*
*баючыся белай гарачкі*
*ад белых грыбоў змешаных з белымі*
*паганкамі*
*на белых талерках*
*як на белай лістоце*
*белага дрэва якое існуе*
*як белыя пялёсткі рамонкаў*
*што на белым падваконні*
*у белым доме ля Сіняй бухты*
*дзе ты паміраеш на белым ложку*
*у белай вышыванцы*
*а за вакном белыя аблокі*
*як белы пух тапаліны*
*белы белы белы*
*як белыя коні пагоні*
*як белыя валасы*
*як белыя рукі*
*як белыя рушнікі*
*як белая пена хваляў*
*што б'юцца аб белы бераг*
*дзе жоўты пясок стаў белым*
*як соль*
*па якой Радзівілы едуць*
*на мядзведзях у свой палац*
*праз белы бярэзнік*
*у Беларусь*
*у якой жыве Бог*
*які аддзяліў белае ад чорнага*
*і цябе запрашае дзяўчына*
*на белы танец*
*белы белы белы*
*як ветразь у моры*
*як белы вецер*
*як белы туман*
*як белы сон*
*што сніўся Ларысе Генію́ш*
*калі цвіў белы бэз*
*калі былі белыя ночы*
*але яны не нашы*
*як і белыя мядзведзі*
*убачыўшы якіх ты не збялееш*
*і не парвецца белая павуцінка*
*на якой трымаецца сонца*
*што заглянула і ў наша ваконца*
*дзе белы заяц з Караткевічам*
*вараць белае піва*
*белае белае белае*
*як белы свет*

## Сосны Івана Навуменкі

**(16.02.1925 — 17.12.2006)**

*сосны каранямі трымаюцца за зямлю*
*а зямля трымаецца за сосны*
*якія растуць пры дарозе*
*што вядзе ў вёску Васілевічы*
*дзе ў сям'і чыгуначніка*
*нарадзіўся хлопчык*
*які вырасце*
*які будзе слухаць вецер у соснах*
*і чуць водгулле далёкіх вёснаў*
*дзе верасы на выжарынах*
*у смутку белых начэй*
*пад асеннія мелодыі*
*і замець жаўталісца*
*як птушкі між маланак*
*будуць напамінаць пра вечнае і роднае*
*што знікаючы не знікае*
*як сонца над той самай зямлёй*
*што засталася ў спадчыну*
*і будзе заўсёды спадчынай*
*дзе тапалі юнацтва*
*апаленыя вайной*
*будуць разам з соснамі*
*стаяць пры дарозе*
*чакаючы цябе*

*вецер у соснах*
*вартуе шышкі як зоркі*
*якія падаючы на зямлю*
*як залатыя кроплі*
*тваіх дзён пражытых*
*не знікаюць у траве*

*стаіш ля сасны пры дарозе*
*як ля свайго мінулага*
*як ля сваёй будучыні*
*і ты гаворыш з сасной*
*і сасна цябе разумее*
*як Радзіма*
*якая адна*
*як сасна пры дарозе*

*сасна вечна зялёная*
*вечна прыгожая*
*і яна цягнучыся ў неба*
*і сёння цягнецца да цябе*

*на Кальварыі ў Мінску*
*не растуць сосны*
*але яны там бываюць*
*прыносячы табе жывіцу*
*што стане бурштынам*
*як кропелькамі сонца*
*калі ты захочаш*
*успамінаючы сасну пры дарозе*
*ля якой ты стаяў хлапчуком*
*як на краі свету*



Яўген МАРТЫНОВІЧ

*Нявыказанае*

# Ужо не дзецi…

*(са школьных успамiнаў)*

## 1

Успамiнаючы свае школьныя гады, гледзячы на фотаздымкi, якiя засталiся пасля 11 гадоў, праведзеных за партай i падручнiкамi, я не разумею людзей… не разумею iх настальгiю па тым часе. Не разумею нават сябе, калi чую немудрагелiстыя матывы песенек кшталту «Школьная пара», калi да горла падкотвае камяк i ты гатовы разрыдацца… Адкуль ён узяўся, гэты камяк? Ты ж уздыхнуў з такой палёгкай, калi Эпачуў апошнi званок!

У мяне з успамiнаў пра школу засталася нейкая невытлумачальная трывога ў чаканнi лiнейкi i першага верасня. Суму па яшчэ адным страчаным леце i пажоўклым лiсцi, якое ты не хацеў, не жадаў заўважаць ужо з першых дзён жнiўня.

Больш, чым успамiны пра школу, я не люблю сустракаць сваiх былых аднакласнiкаў. Але апошнiм часам, калi не так даўно я зноў вярнуўся ў свой стары мiкрараён, гэтыя сустрэчы адбываюцца з «незайздроснай» рэгулярнасцю. Не магу сказаць, што яны мне прыемныя! Мае аднасiны з «калегамi па дошцы i крэйдзе» ў школьныя гады нагадвалi хутчэй варажбу невялiчкiх княстваў. То яны мяне перамагалi, то я iх… Бывала, што падпiсвалi перамiр’е на некалькi тыдняў i не чапалi адзiн аднаго. Але памiж намi нiколi не было сяброўскiх стасункаў. Наадварот, я заўсёды адчуваў да iх (як, здагадваюся, i яны да мяне) нейкую халоднасць i пагарду. Магчыма, прычынай таму была частая змена школ. I да навiчкоў, а тым больш калi ты новенькi ў восьмым класе, грэх не прычапiцца!

Аднак пры сустрэчы ў дарослым жыццi яны робяць выгляд, што вельмi рады мяне бачыць, распытваюць пра маё жыццёбыццё. I ва ўсiх адны i тыя ж пытаннi: цi ажанiўся я, цi ёсць дзецi, кiм працую, колькi зарабляю?.. I па меры маiх адказаў iх твары пачынаюць святлець (маўляў, як жа шкада гэтага «няўдачнiка»!) цi становяцца хмурымi («А! Чаго расхваліўся? Я так, для прыліку, спытаў…»). Аднак я стараюся пазбягаць такiх размоў… Яны мне непрыемныя.

Не, вядома, можна зрабiць выгляд, што не пазнаў чалавека цi заняты нейкай супернеадкладнай справай… Але ўнутраны «iнтэлiгент» не дазваляе правэрочваць такiя фокусы. Таму даводзiцца падыходзiць, рукацца, рабiць выгляд, што табе цiкавы iх (яе) справы, балбатаць нi пра што, запаўняючы паўзы, а на развiтанне «бахнуць» якую-небудзь недарэчнасць кшталту: «Трэба як-небудзь сустрэцца ўсiм класам».

Толькi гэтага яшчэ i не хапала! Потым iдзеш i ў бясконцых спрэчках з самiм сабою ўпiкаеш сябе: «Ну хто цябе за язык цягнуў? Ты ж толькi пасля школы ўздыхнуў на поўныя грудзi! Што гэта за двурушнасць такая?! Слабасць… Што ты хочаш даказаць? Што ты ўжо не такi? Такi ж самы! А можа, яшчэ i горш… Што жывеш паўнавартасным жыццём, вандруеш па свеце, выкрэслiваючы з геаграфiчнай карты адну наведаную краiну за другой? Не, няма ўсяго гэтага!»

Думкi перарываюцца тэлефонным званком.

«Так. Ужо хутка. Не, не забыў…»

## 2

Не ведаю, як у iншых, але ў мяне школа заўсёды выклiкала нейкае пачуццё агiды, якое мацнела з кожным наблiжэннем навучальнага года.

Святочная мiтусня, мора кветак, музыка, урачыстыя словы, ад якiх па скуры iдуць здрадніцкія дрыжыкi, усмешкi бацькоў, букеты першаклашак, за якiмi не бачна будучых вучняў — усё гэта, вядома, падаецца вельмi ўрачыстым i кранальным. Столькi радасцi…

Я памятаю, што таксама iшоў у першы клас з пачуццём нейкага гонару, таемнасцi i павагi да ўсяго, што знiтавана са школай. Мне думалася, што гэта такое месца, дзе цябе навучаць усяму-ўсяму, што ты атрымаеш столькi ведаў, што хутка станеш дарослым i разумным, як мама i тата, i бацькi будуць табой ганарыцца. Што ўсе-ўсе настаўнiкi на зямлi — самыя лепшыя i добрыя людзi ў свеце! Я не сумняваўся ў гэтым. Мяркую, што астатнiя першаклашкi таксама не сумнявалiся…

Аднак расчараванне прыйшло з першых дзён заняткаў. Мая першая настаўнiца была, мякка кажучы, «чалавекам савецкай закалкi» (у найгоршым значэннi), ад якога не дачуешся ласкавага слова цi суцяшэння. Яна не ўспрымала нейкiх паўтонаў i варыяцый — толькi чорнае i белае, iншага не дадзена! Калi ў цябе ўсё атрымлiваецца (прычым адразу пасля яе тлумачэння), калi ты сядзiш цiха, уткнуўшыся ў сшытак цi ўтаропiўшыся на дошку, калi цягнеш руку i адказваеш правiльна, тады ўсё ў цябе будзе добра. А вось калi прызнаешся, што нешта не зразумееў… Першы раз табе растлумачаць. Са сцiснутымi зубамi, нейкiм здзеклiвым тонам — растлумачаць. Аднак не ўздумай перапытваць! I нават калi я правiльна адказваў, ужо немагчыма было змянiць яе адносiны да мяне. НЕ-МАГ-ЧЫ-МА! Не, я так i не здолеў палюбiць «настаўнiцу першую сваю». Як нi стараўся.

Але ж гэта ўсё так, кветачкi… Самае «вясёленькае» пачалося недзе з класа восьмага.

Тое, што паказваюць у фiльмах, пачынаючы ад «Пудзiла» i заканчваючы «Усе пампруць, а я застануся», не iдзе нi ў якое параўнанне з тым, якая панарама пекла разгортвалася ў сапраўдных школах i класах. Якiя словы i абразы прамаўлялiся (адшукавалiся самыя патаемныя страхi, твае комплексы i бязлiтасна выцягвалiся вонкі; нiчога не праходзiла мiма вачэй «МОЦНЫХ класа сяго»!); якiя ўчынкi рабiлiся! Па вычварнасцi i жорсткасцi iх можна параўнаць толькi з самымi прыкрымi выявамi «дзедаўшчыны». Але на ўсё гэта не звярталася ўвагi… Гэта ж дзецi. Самi разбяруцца! А дзе ж славутая падтрымка настаўнiка?! Не, гэта былi ўжо не дзецi!

«Лiтасць?»

Гэтае слова не знаёмае катам. Цяжкiя кулакi, моцны голас — вось iхняя мова. Мова, якая пакуль яшчэ не састарэла.

«Слабасць?»

Цiха, нi слова пра гэта… нi гуку! Задзяўбуць, толькi пакажы яе.

«Спачуванне?»

«Збой у сiстэме… Збой у сiстэме! Аларм! Мёртвая зона…»

Такiя словы ў маiм класе не карысталiся папулярнасцю.

Адзiнае жаданне, якое часта ўзнiкала на працягу навучання ў школе, — ператварыцца ва ўэлсаўскага Чалавеканевiдзiмку. Дарэчы, гэта быў адзiн з самых любiмых маiх персанажаў (пасля Рабiнзона i Капiтана Нема). Але, мне здаецца, нават гэтае ператварэнне не выратавала б мяне. «Дзiкае паляванне» працягнулася б нават з яшчэ большым iмпэтам! Але ўсё гэта падлеткавая фантазiя.

Моцныя дзялiлi зоны ўплыву, слабыя спрабавалi выжыць. У кожнага гэта атрымлiвалася па-свойму. Было некалькi шляхоў ратавання:

1) ператварыцца ў малпападобнае стварэнне i далучыцца да iх зграi (о, як бы iм усiм гэтага хацелася!);

2) застацца белай варонай (нават не варонай, а мышшу) i даць бой абставiнам (але ж паспрабуй хоць пiкнуць, хоць нешта падобнае да супрацiву паказаць — задзяўбуць!);

3) бегчы (не азiраючыся, не гледзячы куды, проста бегчы ў свабодны бок, дзе ёсць выратаванне, ёсць хоць нейкая надзея ацалець).

Я абраў другi варыянт. Хоць сэрца i розум падказвалi, што трэба было б абраць трэцi.

Але ж мы неяк выжылi. I неяк захавалi ў сабе ЧАЛАВЕКА. Дарэчы, i «кáты» сталi больш падобнымi да людзей. Перыядычна сустракаю iх са сваiмi жонкамi i дзецьмi. Усё ў iх добра, iдуць i пасмiхаюцца, радуюцца жыццю… I я шчыра радуюся за iх! Лепш пазней, чым нiколi.

Дзякуй богу, я не трымаю на iх крыўды.

## 3

Не так даўно мне прыснiўся сон пра маю школу. Як заўсёды ў снах, усё падавалася такiм рэальным: твары аднакласнiкаў, настаўнiкаў, iх галасы, скрып крэйды i пах толькi што вымытай дошкi…

У сне я сядзеў за партай са страхам, што мяне павiнны выклiкаць. I выклiкáюць. I я нiчога не магу адказаць. Мяне просяць падысцi да дошкi. Пра нешта пытаюцца, а я блытаюся ў адказах, раблю памылкi, не магу ўспомнiць нiчога з прачытанага.

Чую смех, якi нарастае, невыносны, знiшчальны смех.

— Ты нi на што не здатны! — гаворыць настаўнiца. — Пастой тут яшчэ. Хай усе паглядзяць, якi ты ёлупень!

I гэтая фраза працягвае гучаць у вушах. «Сядай. Два».

I я думаю, як жа выправiць гэтую двойку, бо да канца чвэрцi застаецца ўсяго пяць-чатыры-тры-дзве хвiлiны!

Прачынаюся. Радуюся, што нiкуды не трэба iсцi. Радуюся, што сёння субота i я магу правесцi гэты дзень з сям’ёй. Мы ж якраз планавалi пракацiцца ў Навагрудак i Любчу! Ды куды заўгодна, але каб проста не сядзець на адным месцы.

Цудоўна. Як жа цудоўна! Я зноў ажываю. Жыву. Дыхаю. Планую (так шмат чаго яшчэ трэба здзейснiць!). Вырашаю нейкiя дробныя (але ж такiя неадкладныя) пытаннi. I жыццё падаецца не такiм ужо i цяжкiм. I ўсе праблемы становяцца мiзэрнымi i неiстотнымi.

***

Школу ўспамiнаю ўсё радзей. Але раз-пораз, асаблiва напрыканцы лета, сэрца апаноўвае нейкая туга, i ты ўжо не належыш сам сабе… Успамiнаеш усё, што можаш успомнiць… У такiя моманты я пачынаю паскараць хаду i не заўважаю, як пераходжу на бег. Бягу без сэнсу i мэты, проста бягу. Бягу, пакуль не заколе ў левым баку, пакуль не адчую саланаватага прысмак крывi ў роце…

Дапамагае на некаторы час.

## *Асабiстае*

### Спяшаюся

Кожны раз спяшаюся. I кожны раз абяцаю сабе, што больш так рабiць не буду. Усё роўна ад гэтай мiтуснi нiчога не выйграеш! Ну, прыйшоў на 5-10 хвiлiн раней. А што далей? Зноў давядзецца чакаць! Перабягаеш дарогу, ледзь не трапляючы пад колы тралейбуса. Гаворыш сабе: «Дурань! Прытармазi! Куды ты ляцiш? Яшчэ паспееш на той свет! Насамрэч — сапраўдны IДЫЁТ! У цябе ж ёсць сям’я. Ты пра яе падумаў?» Няма калi думаць. Усё роўна працягваеш гэтую гонку. Усё робiш на бягу, на лёце… На бягу снедаеш, вячэраеш, размаўляеш па тэлефоне, робiш нейкiя справы… Усё дзеля чаго? Дзеля нейкiх 5-10 хвiлiн, якiя ты ўсё роўна аддаеш зачыненым перад носам дзвярам аўтобуса цi пошукавым браўзерам сецiва.

Але што з таго разумення? Працягваю бегчы. На гарызонце — гмахi неадкладных спраў… Усё, няма калi… Пабег!

### «Навошта?»

Калi б вось так адразу, без падрыхтоўкi, задалi мне пытанне: «Навошта ты тут? Для чаго жывеш?» — напэўна, i не адказаў бы адразу… Але, як заўсёды, застаўшыся з гэтым пытаннем сам-насам, некаторыя адказы сфармулявалiся трошкi пазней (дзякуй богу, што сфармулявалiся!). Толькi я дзеля камплекснасцi за адкладзенае на некаторы час пытанне вырашыў ускладнiць сабе задачу i даць тры варыянты адказу. Дык вось — першае.

«Навошта ты тут?»

Дзеля сям’i. Адказнасцi ў выхаваннi дзiцяцi. Любовi ды падтрымкi.

Другi адказ я паспрабаваў звязаць з першым. Удакладню: паспрабаваў зрабiць своеасаблiвы ланцуг, каб кожнае пытанне стасавалася з папярэднiм.

«А навошта жыць дзеля сям’i i дзiцёнка? Можа, гэта толькi апраўданне сваёй бездапаможнасцi?»

Я нi перад кiм не збiраюся апраўдвацца. Кожны адказвае за сябе сам. А жаданне выхаваць душу i сэрца свайго дзiцяцi, зрабiць усе намаганнi, каб з яго вырас разумны i добры чалавек са сваiм унiкальным светапоглядам — нармальнае жаданне любога больш-менш адказнага чалавека. Выйшаў такi вось разгорнуты адказ на другое пытанне.

На трэцяе «навошта» было адказаць трохi цяжэй. I ўсё ж такi...

«Навошта? Навошта выхоўваць сваё дзiця, калi ў нас ёсць дзiцячыя садкi, школы, iнстытуты?»

Каб гэты чалавек стаў невялiчкiм штуршком, а можа, i больш важкiм крокам у змяненнi нашага Сусвету да лепшага, больш гарманiчнага суiснавання чалавека i прыроды, чалавека i чалавека… I хочацца, каб як мага больш людзей удзялялi ўвагу гэтай справе.

Можа, гэта i падасца наiўным, але ў гэтым я бачу сэнс свайго жыцця.

### Калекцыя

Збiраю асадкi i алоўкi. Падбiраю iх нават на вулiцы. Пастаянна яны трапляюцца на вочы, як быццам самi мяне знаходзяць. I кожная такая знаходка можа шмат чаго распавесцi пра свайго былога гаспадара: пагрызены аловак — пра яго добрае; ружовы аловак з коцiкамi цi слонiкамi — пра дзiцячыя мары i светаўспрыманне пакуль яшчэ маленькага чалавека; строгiя асадкi з сiнiм стрыжнем — пра школьныя цi студэнцкiя будні iх уладальнiка. I кожная асадка, кожны аловак можа стаць суаўтарам сапраўднага шэдэўра: казкi, апавядання цi аповесцi, накiдаў будучых карцiн, якiя ўпрыгожаць вядомыя музеi свету… Усё ў руках чалавека, якi валодае такой цудоўнай прыладай працы! Цi амаль усё…

# «Наіўны, прамадушны, рахманы...»

## Успаміны дачкі пра бацьку

**Першае, што я хацела сказаць пра бацьку, і, бадай, галоўнае: ён быў добры чалавек. Дзіўная ацэнка для нашага часу, калі маральныя крытэрыі быццам і не ўлічваюцца пры характарыстыцы асобы. Ну, сказала б, паспяховы. У пэўны час. Сам лічыў, што яму ўсё жыццё шанцавала, і на лёс ніколі не наракаў. Нават тады, калі, здавалася, лёс павярнуўся іншым бокам — у пачатку 1990-х гадоў: у верасні 1991-га раптоўна памёр яго адзіны сын Саша; развалілася дзяржава, у якой Іван Пятровіч нарадзіўся, вучыўся, якую абараняў падчас вайны. А вось страту вялікіх грошай сустрэў раўнадушна: ці да грошай, калі не стала дзіцяці…**

Чым далей, тым болей я пачынаю шанаваць у майстроў слова адпаведнасць іх духоўнага вобліку тым ідэям і пастулатам маралі, якія яны прапаведуюць у сваёй творчасці, імкнучыся выхоўваць народ. Сапраўды, можа, таму і страціла сваё значэнне літаратура ў апошнюю чвэрць стагоддзя, што людзі пераканаліся: інтэлігенцыя, і ў прыватнасці пісьменнікі, журналісты, аказаліся не на вышыні менавіта як асобы.

Шамякін як чалавек цалкам адпавядаў сваёй творчасці. Ён любіў паказваць герояў высакародных, мяккіх, рамантычных — носьбітаў дабра і прыгажосці, хаця і не пазбаўленых некаторых даравальных чалавечых недахопаў. І сам быў менавіта такі: даволі наіўны, прамадушны, рахманы, незласлівы і верны ў сяброўстве і ў каханні. А яго недахопы? Магчыма, залішняя абачлівасць, асцярожнасць, закрытасць для чужых пры ўсёй да іх добразычлівасці. Духоўнае сваё жыццё адкрываў толькі жонцы і блізкім сябрам. Але ж выкладаецца ў кнігах…

Безумоўна, на працягу жыцця ён мяняўся. Я памятаю яго розным. У маладыя гады — смяшлівы, дасціпны, часта з гумарыстычным поглядам на людзей і на з'явы рэчаіснасці. Любіў разам са сваім сябрам Андрэем Макаёнкам разыгрываць калег і знаёмых. Аднак акцёрскімі здольнасцямі, як Андрэй Ягоравіч, абсалютна не валодаў і ўвогуле быў чалавекам даволі сціплым. Губляўся перад нахабнікамі, таму проста імкнуўся іх не заўважаць. Але заўсёды ўрэшце ўсім усё дараваў. Ён не вызначаўся ганарлівасцю, пыхай, выстаўленнем сябе перад людзьмі. Ніхто не мог такое сказаць пра Шамякіна.

Між тым у бацькі было шмат зайздроснікаў. Прычым, як ні дзіўна, сярод пісьменнікаў, якія мелі больш узнагарод і званняў, чым ён. Праўда, Шамякін быў намнога больш папулярны ў народзе, ад чаго крытыкі-інтэлектуалы моршчылі насы — як бацькам пісьменнік толькі для іх практыкаванняў, а не для людзей піша! Але справа, відаць, у іншым. Зайздросцілі тым чалавечым якасцям, якімі самі не валодалі…


Іван Шамякін з Алесем Петрашкевічам, 1981 г.

Шамякін усім дапамагаў, прычым часта і тым, каму не варта было. Так, у канцы жыцця ён надзвычай радаваўся, што за гады кіраўніцтва Саюзам пісьменнікаў Беларусі ён адных толькі кватэр для пісьменнікаў і нават для іх дзяцей «выбіў» калі дзвюхсот.

Але, дзіўна, усе абавязаныя яму кватэрамі, машынамі, выданнямі кніг, пенсіямі, пуцёўкамі, званнямі і прэміямі, дабра, як правіла, не помнілі. Больш за тое, усе недахопы ў кіраўніцтве СП прыпісвалі яму. Хоць ён быў усяго толькі рабочым конікам — першым сакратаром, а не старшынёй. Інакш кажучы, на той пасадзе, дзе мусіш займацца самымі рознымі бягучымі, часта проста гаспадарчымі справамі. А між тым сёння ясна, што менавіта час яго кіравання (безумоўна, разам са старшынямі СП) — залаты век пісьменніцкай арганізацыі. У рынкавай Беларусі цяжка ўявіць, якія выгоды мелі савецкія пісьменнікі.

Праўда, Шамякін ніколі і не чакаў удзячнасці — галоўнае, ён зрабіў дабро. Адкуль такія погляды? Ад жонкі. Мама штодзень паўтарала: колькі мы, Шамякіны, атрымалі дабра ад Бога, ад грамадства, ад дзяржавы, столькі павінны аддаць. І яшчэ ў яе і яе сясцёр была дзіўная дактрына. Мне даводзілася ўжо пісаць, што іх бацька быў рэпрэсіраваны, але вызвалены ў 1938 годзе, калі мая цётухна Вольга напісала ліст М. Калініну. Да выпрабаванняў яны ставіліся па-хрысціянску: значыць, іх бацька меў грахі (можа, ім і невядомыя), за што і прайшоў праз пакуты.

Аптымістычна ўспрымаць жыццё — да жахлівых 1990-х гадоў — Шамякіну дапамагала вера, што ў літаратуры высокая місія выхавання, выпраўлення грамадскай маралі. Таму страшна цяжка перажываў сваю непатрэбнасць у рынкавых умовах. Пра інтэлігенцыю, якая апынулася на збочыне жыцця, фактычна ўсе яго аповесці 1990-х гадоў.

У нашай сям'і не было культу пісьменніка Шамякіна. Інакш кажучы, падчас яго працы — ніякіх табу. Пастаянна прыходзілі суседзі, родзічы, нашы сябры. Вечны гвалт, размовы, музыка. Алеся Іванаўна, маладзейшая за мяне на 12 гадоў, не ўяўляе ўмовы майго


Іван Шамякін на лецішчы ў Ждановічах, 1980-я гады.

дзяцінства. Цудоўнага дзяцінства, лепшага ўявіць немагчыма. Але хатнія ўмовы прымушалі Шамякіна працаваць па начах, ад чаго сапсаваў сабе здароўе. А лепш за ўсё яму працавалася ў Церусе — вёсцы ў Гомельскай вобласці, радзіме маёй маці, дзе ў нас была звычайная вясковая хата, а потым на лецішчы ў Ждановічах.


Іван Шамякін з жонкай Марыяй у Нясвіжы, снежань 1968 г.

Шамякін не меў манеры сцішваць дзяцей, хоць яны і перашкаджалі пісаць, лічыў, што дзеці павінны нармальна развівацца, а значыць, хадзіць на галовах, — лепш ён сам пацерпіць.

У літаратуразнаўчых разглядах кніг некаторых беларускіх пісьменнікаў ужо і ў савецкі час можна было нярэдка сустрэць глыбакадумныя разважанні пра хрысціянскія каштоўнасці, пра біблейскую сімволіку. Да творчасці Шамякіна крытыкі такіх высокіх крытэрыяў не прыкладалі. Але Шамякін, нязменна дэкларуючы сябе атэістам, заўсёды ў жыцці кіраваўся хрысціянскімі дабрачыннасцямі. Гэта асабліва стала заўважна, калі смяротна хварэла мая маці, і ён, сам надзвычай хворы, слабы на ногі, кожны дзень ездзіў да яе ў бальніцу, седзячы з ёй да ночы, выяўляючы тую глыбіню сардэчнасці, якая характарызуе і лепшых яго герояў. Увогуле яго стаўленне да жонкі, маці яго дзяцей, усё жыццё было самае кранальнае, пяшчотнае, рамантычнае. Узнаўляючы сёння ў памяці сямейнае жыццё бацькоў, я магу з поўным правам сказаць: іх саюз сярод, можа, мільёнаў шлюбаў — сапраўды шчаслівы, гарманічны, выключна светлы, вясенні ва ўсім. Любоў бацькоў адно да аднаго і да дзяцей стварала асаблівую атмасферу, у якой мы выхоўваліся.

Я хацела б сказаць пра яшчэ адзін момант у біяграфіі бацькі, які звычайна не згадваюць. Безумоўна, Шамякін вядомы ў Беларусі перш за ўсё як раманіст, «летапісец дзвюх эпох», па вызначэнні акадэміка Уладзіміра Гніламёдава, — эпохі савецкай і постсавецкай. Паколькі яго кнігі абавязкова раскупаліся, ён даваў дзяржаве прыбытак як сярэдняя паспяховая фабрыка. Па яго творах лепшыя беларускія рэжысёры (Міхаіл Пташук, Ігар Дабралюбаў, Вячаслаў Нікіфараў) ставілі кінастужкі, якія атрымлівалі ўзнагароды, у тым ліку на міжнародных кінафестывалях.

Але Шамякін і сам быў надзвычай паспяховым, менавіта дзелавым чалавекам, які працаваў выключна на карысць калектыву, дзяржаве. Ён дваццаць шэсць гадоў з'яўляўся першым сакратаром Саюза пісьменнікаў Беларусі і дзесяць гадоў (усе 1980-я) узначальваў Беларускую Энцыклапедыю імя П. У. Броўкі. Пры ім гэтыя арганізацыі літаральна квітнелі. Без сучасных махлярскіх прыёмаў, без уціску, мякка, добразычліва, з дапамогай інтэлектуальнай гутаркі ён умеў «выбіваць» з чыноўнікаў розных рангаў фонды, будаўнічыя матэрыялы, дэфіцытнае абсталяванне, мэблю, паперу, новыя стаўкі і г.д. Ён ствараў па-сапраўднаму творчыя калектывы, якія працавалі натхнёна і надзвычай плённа. Назаву найбольш буйныя праекты, якія курыраваў непасрэдна ён: будаўніцтва Дома літаратараў на Фрунзэ 5, арганізацыя паліклінікі для пісьменнікаў (спачатку ў цокалі Саюза пісьменнікаў па вуліцы Энгельса, потым — побач з Домам літаратараў), будаўніцтва шыкоўнага Дома творчасці «Іслач». Цяжка сёння ўявіць, колькі яму гэта каштавала нерваў, часу, здароўя.

Шкада толькі, што ўсё пабудаванае Шамякіным на карысць пісьменнікаў пайшло прахам: Саюз пісьменнікаў у 1980 — 1990-я гады не здолеў утрымаць ні дамы творчасці, ні паліклініку, ні сам Дом літаратараў, ні тым больш выданні кніг і высокія ганарары.

Калі Шамякін з'яўляўся галоўным рэдактарам Беларускай савецкай энцыклапедыі імя П. У. Броўкі, ён выпусціў наступныя фундаментальныя выданні: Скарынаўскую Біблію ў трох тамах, Энцыклапедыю літаратуры і мастацтва Беларусі ў пяці тамах, Энцыклапедыю прыроды Беларусі ў пяці тамах; у адным томе — "Янка Купала", «Энцыклапедыя вясковага гаспадара», «Меліярацыя», «Бульба». Выходзілі пры ім энцыклапедычныя выданні і па-руску: "Энцыклапедыя маладой сям'і", "Культура харчавання"... Усяго і не ўпомню. Шамякін ва ўмовах кніжнага дэфіцыту наладзіў выданне і мастацкіх кніг масавага попыту, якія давалі значны прыбытак і СБЭ, і дзяржаве. Сам жа Шамякін, пад навуковай рэдакцыяй якога выходзілі многія выданні, атрымаў званне акадэміка — пра што, дарэчы, зноў-такі, мала хто ведае…

**Таццяна ШАМЯКІНА,**
**фотаздымкі з сямейнага архіва Таццяны і Алесі Шамякіных.**

# Сагрэцца ля «Полымя»

Ці можна прадбачыць, што калі напаткае? Кожны дзень — сюрпрыз. Вось, напрыклад, у першым нумары часопіса «Полымя» надрукавалі эксклюзіўную, ніколі раней не публікаваную кінааповесць Івана Шамякіна «Вера». Народны пісьменнік, знаны празаік і раманіст адкрываецца ў новай іпастасі, бо драматургічная, публіцыстычная і крытычная спадчына Івана Пятровіча менш вядомая. Хаця і публіцыстычныя і крытычныя артыкулы Шамякін пісаў актыўна, асабліва ў 1950 — 1960-я гг. Спрабаваў пісьменнік свае сілы і ў напісанні кінааповесцей: «Эшалон прайшоў» і «Не той гонар». Прычым паводле першай у 1974 г. быў зняты фільм «Хлеб пахне порахам». Кінааповесць «Вера» надрукавана ў аўтарскай рэдакцыі, што дазваляе пабачыць сапраўдны почырк аўтара, без рэдактарскіх і цэнзарных купюр. У творы перш за ўсё хочацца адзначыць увагу аўтара да дэталей: Іван Шамякін з педантычнасцю мастака дасканала, да дробязей выпісвае кожны прадмет, кожную рэч. Дыялогі ў аповесці таксама адшліфаваныя, нібы каштоўныя камяні, у іх чуецца ўласны голас герояў, іх характары. І самае галоўнае, што прысутнічае ўва ўсіх творах Івана Шамякіна на ваенную тэматыку, — драматызм, пачуццё трывогі і неверагодная атмасфера таго страшнага часу. Адным словам, яшчэ адзін таленавіты твор у скарбонцы класіка.

Што да паэтычнай часткі часопіса, то тут вершы на любы густ: лірычны рэалізм ад Віктара Шніпа, меладычная сентыментальнасць Алены Папко і дэпрэсіўная філасофія Фрыдрыха Ніцшэ ў перакладзе Андрэя Касцюкевіча.

Калі казаць пра празаічныя пераклады, то нельга прайсці міма казахскага пісьменніка Немата Келімбетава і яго трынаццаці дыялогаў, аб'яднаных назвай «Зайздрасць» у перакладзе Алеся Карлюкевіча і Генадзя Аўласенкі. Неверагодная паэтычнасць, усходняя мудрасць і разважлівасць, чалавечнасць, дабрыня і шчырасць — тое, што ёсць у творах Немата Келімбетава, і чаго так не стае іншым пісьменнікам. Гэтыя ўражанні ад дыялогаў узмацняюцца, калі ведаеш цяжкі лёс пісьменніка. Амаль сорак гадоў жыцця ён правёў спярша ў ложку нерухома, затым — у інвалідный калясцы. Але ніколі не скардзіўся на лёс, не губляў надзеі, заставаўся аптымістам з вялікай літары. Болей за тое, сваёй каласальнай працай дамогся вышынь і ў навуцы, і ў літаратуры.

Для аматараў сур'ёзнага навуковага чытва — выдатны артыкул Алены Карп «Літаратурная крытыка Максіма Гарэцкага: канцэпцыя і рэалізацыя». Матэрыял будзе цікавы не толькі літаратуразнаўцам, але і прыхільнікам пісьменніка, бо Максім Гарэцкі працаваў у літаратуры адначасова як практык і як тэарэтык, што ўзбагачала і вылучала яго крытыку. Той факт, што сам ён быў таленавітым аўтарам, мог дадаваць вагі, аўтарытэтнасці яго крытычнаму слову ва ўспрыманні калег-пісьменнікаў і ўжо дакладна абвяргаў прафанны тэзіс, нібыта крытыкамі становяцца тыя, хто не змог сцвердзіцца як аўтар. Разам з тым крытыку Максіма Гарэцкага варта ўспрымаць як прафесійную, а не як пісьменніцкую. За яго плячыма была навуковая літаратуразнаўчая праца і, адпаведна, неабходная кампетэнцыя ў справе прыгожага пісьменства. Асабліва карысны гэты артыкул для крытыкаў, бо ў такога майстра слова, як Гарэцкі, варта павучыцца.

Ну і на салодкае — некалькі згадак з маладосці Міколы Гіля пад назвай «Мой сябра Міша Стральцоў». Ад гэтага тэксту складваецца ўражанне, што ты сядзіш з Міколам Гілем на ўтульнай канапе, гартаеш стары фотаальбом з пажаўцелымі старонкамі і чорна-белымі здымкамі і слухаеш цікавы расповед пра свайго родзіча ці добрага сябра. Адным словам, цеплыня і настальгія па незаспетым.




**Дар'я ЛАТЫШАВА**

# Мастацтва без «але»




Сучаснаму чытачу патрэбная матывацыя. Не таму, што ён такі лянівы ці неадукаваны. Проста існуе процьма спосабаў бавіць час — з не меншай карысцю для так званага агульнага развіцця. І калі сучасны чалавек разгортвае кнігу, у большасці выпадкаў гэта значыць: а) ён цікавіцца прафесійнай літаратурай; б) бавіць час з немудрагелістым раманчыкам. У большасці, але не заўжды. І, тым не менш, у літаратурных часопісаў — у тым ліку ў «Нёмана» — вельмі мала шанцаў быць разгорнутымі і прачытанымі чалавекам выпадковым, ці, лепш сказаць, прадстаўніком клана «масавы чытач».

Мастацкі твор, на прачытанне і абдумванне якога варта аддаць час, — «Зіма ў Мічыгане» Інэсы Ганкінай. Гэта верш, змешчаны ў каляднай нізцы, дакладней, нізцы фіналістаў фестывалю аднаго верша, што ладзіцца ў калядны час. Вядома ж, кожны з вершаў нізкі знойдзе чым здзівіць, чым зачапіць, аднак не сам верш як адзіны твор, як гісторыя. Збольшага бачнае жаданне аўтараў сыграць на кантрасце: вось Каляды, якія мусяць быць святочнымі, — а вось мой несвяточны настрой. Грубаватасць і насычанасць алюзіямі — спалучэнне, якое сёння яшчэ здзіўляе чытача юнага, але даўно не з'яўляецца новым. У спалучэнне гэтае перастаеш верыць як у шчырасць. «Зіма ў Мічыгане» вылучаецца адстароненасцю ад літаратурнай гульні, як і верш Дзмітрыя Юртаева «Снег падае і маўчыць», такі просты на першы погляд. Тут дарэчы працытаваць Янку Сіпакова — з публікацыі, змешчанай у гэтым жа нумары: «Я — самы звычайны. Сёння гэта і стала незвычайным».

Існуе меркаванне, што пісьменнікі сёння пішуць… для пісьменнікаў. Іншымі словамі, літаратурны часопіс — для тых, хто яго стварае, друкуецца ў ім. І калі аўтары гэта разумеюць, узнікае пытанне: няўжо калегу можа здзівіць, уразіць банальны верш пра дзяцінства і родны вясковы дом?.. Але справа нават не ў канкрэтных тэкстах, а ў тым, што аўтары не ўяўляюць, у якой літаратурнай прасторы яны знаходзяцца, колькі ў іх чытачоў.

Цяпер пра добрае, што магло б спраўдзіцца, але так і не спраўдзілася: аповесць-фантазія Уладзіміра Арлова «Ён смяяўся апошнім…». Аўтар узяў бяспройгрышную тэму. З такой тэмы, драматычнай да дрыжыкаў, можна было б зляпіць вялікі раман, і той не выглядаў бы вымучаным. Тэма такая: сатырык ва ўмовах тыраніі. Ад адной толькі думкі пра падобнае мастак мусіць адчуць вострае хваляванне. Другі моцны бок твора — пазнавальныя імёны. Сярод герояў фігуруюць, прыкладам, партыйныя дзеячы (і які гогалеўскі парад партрэтаў можна было б з іх напісаць!..). Але і гэта не самае галоўнае: на першым плане — беларускія пісьменнікі, артысты. Цэнтральны персанаж — Кандрат Крапіва. Аповесць Уладзіміра Арлова магла б стаць новай класікай, адкрыццём — і, як вы ўжо здагадаліся, не стала. Усю гэтую раскошу аўтар проста выкладае перад чытачом, не апрацаваўшы «драматычна». Канстатацыі, пералік, дыялогі, у якіх яркія і пазнавальныя толькі яўрэйскія персанажы. Бо мала сказаць, што герой — Крапіва. Трэба напісаць Крапіву, стварыць яго наноў. Але ён так і праходзіць праз аповесць шэрым, незаўважным героем. Куляшоў і Лынькоў узнікаюць і тут жа забываюцца, прамовіўшы свае нязначныя словы. Янка Купала паўстае адно як «дзядзька Янка» (з улікам шляхетнай натуры паэта цяжка моўчкі прымірыцца з гэтым вобразам). Партыйцы ў У. Арлова спрэс сімпатычныя і выклікаюць спачуванне, хоць тут жа прыводзяцца імёны рэпрэсіраваных беларусаў. Цікавая гісторыя атрымалася і з назвай аповесці. Згодна з ёй, Крапіва мусіў смяяцца апошнім, выйсці пераможцам. Аднак пасля свайго маленькага трыумфу сатырык, па ацэнцы самога ж У. Арлова, не стварыў нічога значнага. Крапіва знікае, пераможаны гарлахвацкімі.

Відавочнай памылкай, лічу, было пісаць менавіта мастацкую аповесць. Больш адэкватна — і з пункту погляду жанравага, і стылістычнага — выглядала б аповесць дакументальная, хай сабе з элементамі домыслу. У якасці ж мастацкага твор выглядае як чарнавік, накід. Мастацтва без «але» — кароткія аповеды Ірыны Батаковай. Тры тэксты звязаныя адной прасторай, у якой існуюць тры галоўныя героі — хлопчык, дзяўчо і юнак. І кожны з іх сутыкаецца са смерцю. Хлопчык бачыць смерць як казачную дзею, а на пытанне, ці памрэ і ён аднойчы, маці адказвае: ніколі. Натуральна, з яе боку гэта было хлуснёй. Аднак у яе адказе прагучала ідэя аўтара. Спадарыня Ірына, празаік удумлівы, уважлівы да дэталяў (блікі, адценні гуку, колеры; непаўторнае апісанне цёплага летняга дажджу), паказвае: смерці як нябыту няма. І несумненна ёсць душа. Яе героі гінуць незаўважна, нават пяшчотна. Яны нават не заўважаюць момант пераходу з мітусні ў бясконцы спакой. Ірына Батакова спалучае апісальнасць, патрэбную для раскрыцця псіхалогіі персанажа і развіцця дзеі, і вобразнасць, якая і стварае тую паэзію прозы, без якой апошняя ператвараецца ў набор паасобных слоў.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Не давяраць… сабе?

Старонкі айчынных газет і інфармацыйных парталаў рэдка змяшчаюць меркаванні духоўных асоб. Між тым рэлігія мае вялікую значнасць для многіх беларусаў. У часопісе «Маладосць» паўгода таму з'явілася сталая рубрыка «З Богам». Па словах галоўнага рэдактара Святланы Дзянісавай, супрацоўнікі даўно адчувалі неабходнасць духоўных старонак. Гэтым разам у рубрыцы змешчаны развагі іераманаха Агапія «Пра любоў да сябе і бліжняга», якія ілюструюцца апавяданнем-успамінам Валерыя Гапеева.

Іераманах Агапій падкрэслівае неабходнасць крытычнага стаўлення да сваіх жаданняў і памкненняў і ўздымае пытанне «Хто такі "я"?» — «важнае тым, што пры няякасным адказе любоў да сябе можа стаць накіраванай на разбурэнне сябе ж». Валерый Гапееў нагадвае пра сціплых, працавітых, клапатлівых, шчодрых душою сялян — надзвычай прыгожы беларускі тып. Ёсць у часопісе і працяг апавядання айца Яўстафія «Парыжскае развітанне», дзе цікавыя роздумы кампенсуюць пэўную «расплывістасць» твора.

Яшчэ адна прыкметная публікацыя нумара — пераклад фрагментаў рамана нямецкага журналіста Томаса Гнілкі, дзе згадваюцца падзеі Другой сусветнай вайны і канцлагер Асвенцым. У шаснаццаць гадоў Томас Гнілка стаў памочнікам зенітчыка ў нямецкай арміі, трапіў у раён Асвенцыма. А пасля вайны адлюстраваў разгубленасць маладых салдат, супярэчлівасць іх настрояў і пачуццяў.




Раман «Гісторыя аднаго класа» сустракаецца ў часопісе з успамінамі доктара і выдаўца Генадзя Шаршаня пра дашкольныя гады ў акупаваным Мінску. У беларускага аўтара немцы напярэдадні вызвалення «абшукваюць кожны дом і, калі знаходзяць у ім людзей, адразу страляюць з аўтамата або кідаюць гранаты». У нямецкага — частуюць ацалелых вязняў цыгарэтамі і раяць схавацца ад больш катэгарычных салдат. Сучасныя чытачы ў Германіі і Беларусі аб'ядналі неабходнасцю зноў і зноў узгадваць праблему вайны, асэнсоўваць яе ў розных кантэкстах, бо мінулае нязменна нагадвае пра сябе. Так, фрагменты рамана Томаса Гнілкі былі надрукаваныя толькі ў 2014 годзе — праз паўстагоддзя пасля смерці творцы.

Маленькія апавяданні маладых аўтараў у параўнанні з «Гісторыяй аднаго класа», перакладзенай Аляксеем Дзенісенкам, падаюцца пазбаўленымі глыбіні, уласцівай класічным творам. Тут шмат выключных ці неверагодных здарэнняў, шмат карысных для чытача ідэй, але пакуль гэта хутчэй практыкаванні, з якіх, бясспрэчна, могуць вырасці сур'ёзныя пісьменнікі.

Рубрыка «Паэзія» аб'яднала розных аўтараў — светлую, музычную і вясновую Вікторыю Смолку, закаханага Алеся Бараноўскага, усім вядомага Міколу Мятліцкага і таксама прыкметнага, але ў катэгорыі «маладыя паэты», Мікіту Найдзёнава.

Што тычыцца іншых старонак «Маладосці», то супрацоўнікі часопіса разлічваюць на шырокае кола чытачоў, таму звяртаюцца да самых нестандартных тэм. Паліна Лісоўская згадвае жыццё ў Швецыі, Віктар Кошаль апісвае экспедыцыю на Камчатку, Юрась Гецэвіч распавядае пра лабараторыю Нацыянальнай акадэміі навук, якая вучыць камп'ютар разумець беларускую мову... «Маладосць» прапануе цікавосткі на любы густ, і, трэба думаць, сёлета іх будзе нямала!

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Пад зоркай кнігі

**Беларусь 23-ці раз праводзіць Мінскую міжнародную кніжную выстаўку-кірмаш. Да нас прыязджаюць выдаўцы і пісьменнікі, прывозяць кнігі і распавядаюць пра літаратуру сваіх краін — гэта цікава яшчэ і таму, што ёсць магчымасць выразна ўбачыць, што мы маем. Прыглядзецца, учытацца. Лепш сябе зразумець: чаго шукаем у кнігах і чаму. Таму размову з першым намеснікам Міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Ігарам Луцкім мы пачалі з абмеркавання прадстаўніцтва на выстаўцы-кірмашы айчынных і замежных удзельнікаў:**


*Ігар Луцкі.*

## Для гасцей

— На сёння ўдзел у Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы пацвердзілі 27 краін, усяго 291 экспанент. З іх 202 беларускія (каля 30 недзяржаўных), і 90 замежных. Вялікае прадстаўніцтва ў Расіі — 50 экспанентаў. Украіну будуць прадстаўляць 10 экспанентаў. Традыцыйна прадстаўнічыя стэнды ў Францыі, ЗША, Германіі, Вялікабрытаніі, Ірана, Казахстана. І яны дэманструюць трывалую цікавасць да Мінскай кніжнай выстаўкі-кірмашу. Тыя, хто разумее сілу кнігі, яе значэнне для выхавання народа, для прапаганды сваёй культуры, зацікаўленыя прадстаўляць сябе годна. Радуе, што сёлета колькасць удзельнікаў фактычна захавалася і свае стэнды краіны не памяншаюць.

Ганаровы госць XXIII Мінскай міжнароднай выстаўкі-кірмашу — Рэспубліка Арменія. Гэта краіна са старажытнай гісторыяй кнігавыдання. У Нацыянальнай бібліятэцы Арменіі і Інстытуце старажытных рукапісаў Матэнадаран (адно з найбуйнейшых сховішчаў рукапісаў у свеце) захоўваюцца старажытныя рарытэтныя выданні. Я быў у Арменіі, у гэтай бібліятэцы. У іх славутыя традыцыі, яркая культура, што адлюстравана ў кнігах. Гэты народ з трапятаннем ставіцца да сваёй культуры і кнігавыдання. І сучасная літаратура развіваецца — мы гэта ўбачым.

Арменія рыхтуе даволі вялікі стэнд, які размесціцца побач з нацыянальным беларускім, дзе будуць прадстаўлены дзяржаўныя выдавецтвы: «Мастацкая літаратура», «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі», «Беларусь», Выдавецкі дом «Звязда», «Вышэйшая школа», «Народная асвета», «Пачатковая школа». Таксама на нацыянальным стэндзе можна будзе азнаёміцца з кнігамі Выдавецкага дома «Беларуская навука», грамадскай арганізацыі «Саюз пісьменнікаў Беларусі» і выдавецтва «Чатыры чвэрці».

## Для наведвальнікаў

**— Як наведвальніку сарыентавацца і выбраць самыя адметныя падзеі?**

— Цэнтральная пляцоўка будзе адлюстроўваць адметныя падзеі бягучага года. Адна з асноўных тэм выстаўкі — падрыхтоўка да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання — гісторыя кніжнай культуры, якой наша краіна можа ганарыцца. Таму гэта і самая актыўная кропка ва ўсім вялікім павільёне, умоўна яе можна назваць «зонай прэзентацый». Тут будуць праходзіць усе мерапрыемствы, запланаваныя нашымі выдавецтвамі: сустрэчы, прэзентацыі выданняў, якія былі выпушчаны ў 2015-м годзе. Гэта тэрыторыя не толькі кніг, але і асоб, якія іх прадстаўляюць. Аўтограф-сесіі — абавязковы атрыбут любой кніжнай выстаўкі. Мы думалі, як пашырыць тэрыторыю, дзе пісьменнік і чытач могуць сустрэцца, абмеркаваць, выказаць сваё меркаванне пра тое, што адбываецца ў літаратуры. Наогул сёлета багата нагод для разважанняў: 25 гадоў Садружнасці Незалежных Дзяржаў, 70-годдзе Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, юбілеі Максіма Багдановіча, Кандрата Крапівы, Івана Шамякіна. Беларускі народ памятае і пра 30-годдзе Чарнобыльскай катастрофы. Усе гэтыя тэмы будуць мець адлюстраванне ў афармленні выстаўкі і ў праграме мерапрыемстваў. Але ўсё ж мы запрашаем людзей яшчэ і на кірмаш, таму прадугледжана вялікая гандлёвая пляцоўка, якая адводзіцца адкрытаму акцыянернаму таварыству «Белкніга». Зона рознічнага гандлю размесціцца на ніжнім ярусе павільёна.

**— Заўсёды прыцягваюць чытачоў дэмакратычныя кошты на кнігі. Ці ёсць агульная цэнавая палітыка ў межах выстаўкі?**

— Удзельнікі, якія прыязджаюць да нас, хочуць, каб кніга засталася тут, — гэта перш за ўсё прапаганда сваёй культуры, гэтым кіруюцца пры фарміраванні коштаў. І калі мы выязджаем на выстаўкі за мяжу, то маем на мэце тое ж: гэта шчасце, калі кніга запатрабаваная ў той краіне, у якую ты прыехаў. Удзельнікі выстаўкі самі вырашаюць, якія кнігі прывязуць. Напэўна, раяцца з калегамі, якія тут працуюць (ёсць жа дыпламатычныя прадстаўніцтвы). Ды і за столькі гадоў ужо ведаюць нашу чытацкую аўдыторыю.



**— Ці можна прасачыць дынаміку інтарэсу наведвальнікаў ад першых выставак?**

— Другі год выстаўка праходзіць у выставачным павільёне на праспекце Пераможцаў, 14. Паводле падлікаў, летась яна мела больш за 30 тысяч наведвальнікаў. Інтарэс да кнігі ёсць. Але яго трэба яшчэ падаграваць. Каб не праводзіць мерапрыемствы для вузкага кола пісьменнікаў, крытыкаў, аматараў літаратуры. Гэтая выстаўка для ўсіх, нават для чытачоў розных узростаў. Таму ў нас задумана дзіцячая пляцоўка з гульнявой зонай, там змогуць працаваць усе выдавецтвы, якія выпускаюць дзіцячую літаратуру — з конкурсамі, віктарынамі, гульнямі. Прыцягваючы дзяцей да кнігі, мы выхоўваем для будучыні свайго чытача. Трэба адзначыць, што па продажах дзіцячая літаратура больш запатрабаваная. Пытанні кнігавыдання знаходзяцца ў наш час у розных плоскасцях: трэба думаць і пра эрганоміку кнігі, і пра фармат, і пра санітарныя нормы, і пра якасць паперы, і гэтак далей. Асабліва калі гэтая кніга для дзяцей. Дарэчы, паліграфічны камбінат імя Якуба Коласа выступае асобным экспанентам, таму што кніжную справу немагчыма разглядаць без паліграфічнага складніка.

## Для выдаўцоў

— Усе аспекты ў стварэнні кнігі ўлічваюцца падчас Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі». У 55-ты раз мы абвесцім яго пераможцаў менавіта падчас правядзення выстаўкі.

**— Але нашы выдавецтвы адзначаюць і на міжнародных конкурсах…**

— Хачу прыгадаць, што падчас апошняга конкурсу краін СНД «Мастацтва кнігі» мы ўзялі Гран-пры за выданне «Беларусь замкавая», і яшчэ ў шэрагу намінацый былі адзначаны беларускія выдаўцы. А сёлета ва ўмоўнай «зоне СНД» будзем выстаўляць пераможцаў за ўсе 12 гадоў правядзення гэтага конкурсу, што праілюструе, як існавала літаратурнае асяроддзе на гэтай прасторы.

Трэба адзначыць, што Рэспубліка Беларусь ў межах конкурсу СНД годна выглядае, нам па-добраму зайздросцяць як краіне, дзе дзяржава надае ўвагу кнігавыданню. На гэта накіраваны комплекс мер дзяржаўнай палітыкі, сярод якіх і фінансавы складнік, але не толькі. Штогод складаецца спіс сацыяльна значных выданняў, на якія дзяржава выдаткоўвае сродкі, каб кнігі прыходзілі да чытача з аптымальнай цаной. Гэты спіс прапрацоўваецца сумесна з бібліятэкамі, Саюзам пісьменнікаў Беларусі, дзяржаўнымі органамі. Гэта сістэмны падыход, на яго працуе і сетка крам — мы імкнёмся, каб беларуская кніга, выпушчаная айчыннымі выдавецтвамі, была прыкметнай. Прадумваюцца маркетынгавыя хады, таму што кнігу можна паставіць далёка ў кут, і ніхто яе не ўбачыць. І калі нават добрая кніга затрымалася на паліцы, значыць, недзе недапрацавалі. Робяцца перавыданні — закранулі важную тэму, якая цікавіць людзей. Трэба адзначыць, што ў нас шмат серый, у рамках якіх выдаюцца беларускія класікі (ёсць цікавасць). Але часам увага той жа моладзі да нейкай кнігі можа быць выклікана асаблівай актуальнасцю тэмы, нейкай дыскусіяй, абмеркаваннямі. Таму ў наш час трэба ўмець яшчэ і абуджаць інтарэс да кнігі, прасоўваць яе. Дзеля гэтага Міністэрствам інфармацыі праводзіцца шмат мерапрыемстваў: Калядны баль кнігі і дабрачынны аўкцыён, праект «Лета з добрай кнігай», акцыя «Сямейнае чытанне», робіцца шмат, каб выхоўваць любоў і павагу да кнігі.

## Для пісьменнікаў

**— Каб абуджаць чытацкі інтарэс, у Мінскай міжнароднай выстаўцы-кірмашы бяруць удзел пісьменнікі…**

— Другі раз у межах выстаўкі пройдзе міжнародны сімпозіум літаратараў «Пісьменнік і час: пераемнасць у літаратуры» і семінар маладых літаратараў Беларусі і Расіі. Летась у выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшла кніга маладых літаратараў «Мой дзень пачынаецца». Ёсць задача прыцягваць у літаратуру маладых людзей, каб таленавітыя аўтары не заставаліся ў цені масцітых пісьменнікаў, але ўваходзілі ў літаратурны працэс. Гэта будзе своеасаблівая вучоба, перадача вопыту, каб у маладых выпрацоўваліся крытэрыі разумення таго, што ёсць добра і дрэнна ў літаратуры, а дзе можа быць патрэбны абсалютна новы погляд на рэчы. Будуць абмяркоўвацца праблемы, актуальныя ў пісьменніцкім асяродку. Як стаць пісьменнікам больш папулярным і вядомым? Можа быць, часцей з'яўляцца і праводзіць прэзентацыі ўласных кніг? Але трэба сказаць, што ў нашых кнігарнях «Светач» і «Цэнтральная» пастаянна праходзяць прэзентацыі кніг, у якіх актыўна бяруць удзел аўтары. На Мінскай кніжнай выставе-кірмашы ў Мінску асаблівая ўвага з боку чытачоў да кніг беларускіх літаратараў. У прыватнасці, актыўнымі ўдзельнікамі заўсёды з'яўляюцца члены Саюза пісьменнікаў Беларусі.

**— Дзеля чаго дзяржава бярэ на сябе арганізацыю такога маштабнага, складанага мерапрыемства ўжо 23-ці год запар?**

— Такія мерапрыемствы ў тым ліку фарміруюць прэстыж, імідж краіны. Кніга — частка культуры. А ў Год культуры яе значэнне асабліва — выхаванне чалавека перш за ўсё праз кнігу і культуру. Таму што з разумення сваёй культуры і адчування гонару за яе складваецца нацыя і краіна.

**Ларыса ЦІМОШЫК**

# Валерый КАЗАКОЎ: «У любых абставінах заставацца чалавекам»



**Валерый Казакоў удзельнічае сёлета ў літаратурным сімпозіуме «Пісьменнік і час: пераемнасць у літаратуры». Асоба вядомая і ў Беларусі, і ў Расіі. Палкоўнік запасу, кандыдат сацыялагічных навук, сапраўдны дзяржаўны саветнік Расійскай Федэрацыі, лаўрэат Дзяржпрэміі ўрада Расіі ў галіне культуры, член абаіх саюзаў пісьменнікаў Расіі і Беларусі. З-пад яго пяра выйшлі паэтычны зборнік «Філасофія гуку», кнігі «Разбітае люстэрка Карабаха», «Асфальт і цені», «Запіскі каланіяльнага чыноўніка», «Цень гобліна» і іншыя. Яго творы перакладзены на эстонскую, польскую, украінскую, сербскую, англійскую і нямецкую мовы. Ён лаўрэат Вялікай літаратурнай прэміі Расіі, літаратурнай прэміі імя Грыбаедава, міжнароднай прэміі імя Пікуля, прэміі Саюза пісьменнікаў Сербіі. За ўклад у развіццё беларускай літаратуры Валерый Казакоў узнагароджаны медалём Францыска Скарыны.**

**— Падзеі апошняга вашага рамана таксама звязаны з Беларуссю. На нядаўняй сустрэчы з прыхільнікамі вашай творчасці ў Магілёве вы абяцалі хутка пазнаёміць чытачоў са сваім новым творам пра «чорнага ката». Пра што ён?**

— У канцы вайны спецслужбы фашысцкай Германіі планавалі стварыць у тыле савецкіх войскаў дыверсійны фронт. Была распрацавана аперацыя пад кодавай назвай "Любімая Котка", якая ў Беларусі насіла назву «Чорны кот», ва Украіне — «Сцяпны кот», у Расіі — «Дзікі кот». Мяне зацікавілі ўсялякія выпадкі, здагадкі накont таго, быў беларускі супраціў або не. Так нарадзілася першая частка гэтага рамана, які зацягнуў мяне настолькі, што спатрэбіцца яшчэ другая і трэцяя. У першай частцы апісваюцца падзеі 44-га года. А апошні акт супраціўлення беларускіх нацыяналістаў савецкай уладзе быў адзначаны ў 57-м годзе. У рамане я спрабую знайсці адказ на пытанне, чаму ў Мінску напярэдадні яго вызвалення сабраўся другі сусветны кангрэс беларусаў.

**— А на што яшчэ б вы хацелі знайсці адказы ў сваіх будучых творах?**

— Чаму, напрыклад, беларусы на адным месцы жывуць шостае тысячагоддзе. Яшчэ мяне цікавіць паходжанне Беларускага мора, якое было на тэрыторыі сучаснага Палесся.

**— Вы пачыналі як чалавек ваенны, але літаратура перамагла. Што гэтаму паспрыяла?**

— Тут цэлая эпапея. Спачатку я хацеў паступаць у магілёўскі будаўнічы тэхнікум, але не атрымалася, тады пайшоў зноў давучвацца ў сваю 24-ю школу. Яе, на жаль, зараз няма. Пасля школы ўсё лета працаваў на Магілёўліфтмашы, каб зарабіць грошай і забяспечыць маці. Потым была армія і ваеннае вучылішча, пасля якога ў родны Магілёў я ўжо не вярнуўся.

Што датычыцца літаратуры, то вершы пачаў пісаць даўно. Калісьці ў 50-я гады ў Магілёве было аб'яднанне «Прыдняпроўскія ветразі». Са мной нешта адбылося пасля 9 класа. Я закінуў усе свае дваровыя кампаніі і пачаў цікавіцца мастацтвам. Мяне пацягнула ў тэатр, запісаўся ў драматычны гурток ДК чыгуначнікаў. Потым захапіўся літаратурай. Пасля арміі хацеў пісаць, быць ваенным журналістам. Але існавала адна праблема: у мяне былі складанасці з граматыкай, хаця змест заўсёды ацэньваўся на «выдатна». Я б ніколі не паступіў у вышэйшае ваеннае вучылішча, калі б не траюрадная пляменніца Антона Паўлавіча Чэхава. На падрыхтоўчых курсах у Германіі, дзе я праходзіў тэрміновую службу, яна выкладала літаратуру. І, дарэчы, была жонкай афіцэра-лётчыка. Ёй імпанавала тое, што я ведаў, хто такі Чэхаў, і захапляўся літаратурай. Яна маёй ручкай выправіла памылкі, і дзякуючы ёй я паступіў, куды хацеў.

**— Што вам перш за ўсё важна выказаць у сваіх творах?**

— Я вельмі позна пачаў пісаць. Першая мая кніга выйшла ў 2002 годзе. Зараз у мяне дзесьці 20 кніг. Гэта зацягвае. Тым больш што ведаю такія рэчы, пра якія маўчаць нельга. Тэма, дзе галоўны персанаж — чыноўнік, застанецца для мяне асноўнай, таму што гэты свет мне знаёмы знутры, я ведаю ўсю подласць і веліч чынавенскага жыцця. Таму, калі вам будуць хлусіць, што чыноўніку цяжка жывецца, не верце, бо, калі б гэта была праўда, ён пайшоў бы ў рознарабочыя. Чаму Салтыкову-Шчадрыну было проста пра гэта пісаць? Ён сам быў віцэ-губернатарам і гэтыя «свіныя лычы» бачыў на свае вочы. Яму не трэба было тлумачыць, што гэта такое. Мне таксама не трэба тлумачыць, што такое «цень гобліна», наогул, хто такі гоблін. Мне цікава, чаму чалавек прыходзіць да ўладу ўвесь такі пушысты, а праз нейкі час яго ўжо і не пазнаць. Сядзіць такі «свіны лыч» і глядзіць дурнымі вачамі, не пазнае ні цябе, ні бацькоў. Што з ім адбылося, чаму наогул такое адбываецца? І што такое тады ўлада, калі яна так кардынальна мяняе чалавека? Чаму адбываецца трансфармацыя душэўных якасцей чалавека, калі ён трапляе ва ўладу? У чым яе дасканаласць і недасканаласць?

**— Вы сябруеце і з простымі людзьмі, і з высокапастаўленымі чыноўнікамі. Наколькі, на ваш погляд, вялікая паміж імі дыстанцыя?**

— Можна крытыкаваць уладу, але хачу адзначыць, што беларуская ўлада не далёка ад народа сышла. Яна ў крокавай даступнасці. Я ўжо пісаў пра тое, як аднойчы ішоў у Мінску па рынку і сустрэўся з Мясніковічам. Гэта ўсё роўна, калі б я сустрэў Мядзведзева на «Чыркізоне». Або быў выпадак, калі я зайшоў у «Карону» ў Мінску, а мне насустрач Макей цялежку штурхае. У Расіі такога ўжо няма.

**— Вы, здаецца, па жыцці болей праўдалюб. А ці даводзілася вам крывіць душой?**

— Праўдалюбы толькі ў казках бываюць і называюцца дрывасекамі. Таму што дзе дрэвы сякуць, там трэскі лятуць. Калі ўсюды лезці са сваёй праўдай, ты толькі людзей напалохаеш, а праўду спаганіш. Праўда — гэта страшная зброя, ёй не трэба проста так размахваць. Яна ж вельмі шматбаковая, шматгранная. Для цябе адна грань бачная, для людзей — іншая. І твая праўда можа быць абсалютна непрымальная для іншага чалавека. Я ніколі не адказваюся ад сваіх перакананняў. Падчас службы па маёй віне не загінуў ні адзін мой салдат, усе, каго мне маці даверылі, вярнуліся дадому жывымі. У мяне ёсць свае меркаванне, якое я не баюся выказаць. Нават калі гэта камусьці і не падабаецца. Мы не маем права лгаць. Жыццё вельмі кароткае.

**— А былі выпадкі, калі вы з-за сваіх перакананняў мелі ўсе магчымасці пацярпець?**

— Я меў адносіны да камітэта ў абарону Аляксандра Салжаніцына — прарока і вялікага чалавека. Гэта быў пачатак 70-х, яго яшчэ не выгналі з Расіі. Кіраўніком гэтай арганізацыі быў старшы лейтэнант з Данецкага ваенна-палітычнага вучылішча. Але мяне рэпрэсіі не закранулі. Я закончыў ВНУ. Наступствы былі для старэйшых, якія больш сур'ёзна да гэтага адносіліся.

**— Ведаю, што вы неабыякава ставіцеся да стварэння музея Алеся Адамовіча ў Глушы Бабруйскага раёна.**

— Гэты музей абавязкова з'явіцца, таму што быў такі чалавек. Ён напісаў «Вайну пад стрэхамі» і шмат іншага, дзе расказаў пра мужных людзей, пра партызан. Пра тое, што ён сам бачыў і перажыў. І была ў Глушы аптэка — явачны пункт, куды прыходзілі партызаны і падпольшчыкі. Было вялікае супраціўленне нашага народа страшнаму, разумнаму, падступнаму і моцнаму ворагу. Адамовічу можна паставіць помнік ужо толькі за тое, што ён разам з Элемам Клімавым зрабіў фільм «Ідзі і глядзі». Гэта геніяльная кінастужка. Нельга забываць і пра тое, што Алесь Адамовіч разам з Васілём Быкавым з'яўляюцца творчымі роданачальнікамі нашага сённяшняга лаўрэата Нобелеўскай прэміі — Святланы Алексіевіч. Абяцаю зрабіць усё магчымае, каб толькі быў гэты музей.

**— Вы думаеце, што праблема яго адкрыцця толькі ў грошах?**

— Мне здаецца, уся бяда ў нашым адзічэнні. Калі мы перастаём памятаваць пра тых, дзякуючы каму сёння жывём. Пра тых падпольшчыкаў, закатаваных людзей, якія аддалі свае жыцці дзеля Перамогі. Мы сёння сядзім і робім выгляд вялікіх начальнікаў у той момант, калі трэба проста зрабіць крок. Знаходзім грошы на канцэрты, а на памяць і гісторыю свайго краю сродкаў не хапае. Тым больш геранічную гісторыю. Не ведаю, чаму такія адносіны да класікаў беларускай літаратуры. Гэта былі дзяржаўныя людзі, яны думалі пра будучае свайго народа. Дзяржава не мае права іх забываць.

**— Вы прыклалі шмат намаганняў для вяртання на тэрыторыю Беларусі тых культурных каштоўнасцей, якія з'яўляюцца нацыянальным здабыткам і былі вывезены з краіны. Наколькі для вас гэта было важна?**

— Наогул, я вельмі ганаруся тым, што за 5 гадоў свайго старшынства ў нацыянальна-культурнай аўтаноміі беларусаў Расіі пасадзейнічаў вяртанню на Радзіму каля 200 прадметаў даўніны, кніг і розных рэчаў. Мне заўсёды хацелася, каб беларусы ведалі і ганарыліся сваёй гісторыяй. Да пэўнага часу я таксама жыў сабе расійскім чалавекам і не задумваўся пра карані, а потым пачаў капацца ў сваім радаводзе, цікавіцца ўсім, што датычыцца Беларусі. Раптоўна я ўбачыў, што вакол мяне ў Маскве жыве шмат беларусаў. Пачаў глядзець, хто мае продкі, адкуль узялося прозвішча Раманкевіч па матулінай лініі, цікавіцца старымі фотаздымкамі. Ад мамы засталіся некаторыя рэчы, якія павінны перадавацца нашчадкам. А ўлічваючы, што ў мяне ёсць і сыны, і дочкі, і ўнукі, і ўнучкі, мне ёсць што ім пакінуць. Але разам з матэрыяльнымі каштоўнасцямі трэба перадаваць і духоўныя. У гэтых духоўных вытоках якраз усё ў мяне жыве. У мяне няма ніводнага твора, дзе не было б беларуса. І гэтыя героі, як правіла, станоўчыя. Крок за крокам мне адкрываецца глыбіня беларускай гісторыі. І трэба рабіць усё, каб яе захаваць. Калі прымаў удзел у вяртанні Статута ВКЛ для Магілёва, адзін з высокапастаўленых начальнікаў сказаў, што гэта літоўскі Статут, маўляў, пры чым тут беларусы. Ён нават не ведаў, што тэкст напісаны на беларускай мове.

**— Сярод апошніх вашых падарункаў музею гісторыі Магілёва вельмі каштоўная рэч — падвеска з трызубцам часоў княжання Уладзіміра Чырвонае Сонейка.**

— Рэч сапраўды каштоўная. Князь Уладзімір мог адзначаць ёй сваіх намеснікаў, якія ўваходзілі ў аб'яднанне Кіеўскай Русі. Калі тая легенда, якая звязана з ёй, пацвердзіцца, то Магілёў стане старэйшым яшчэ на 300 або 400 год.

**— Вы не толькі вяртаеце Беларусі яе культурныя каштоўнасці,алеіактыўнадапамагаеце Расіі аднаўляць духоўныя святыні.**

— Я веруючы чалавек, уцаркоўлены. З'яўляюся прыхаджанінам Валаамскага манастыра. Гэта адна з найвялікшых святыняў сучаснага праваслаўнага свету. Частку сваёй душы я ўклаў у яе, дапамагаючы аднаўляць манастыр. А хрысцілі мяне ў Магілёве, у храме Трох Свяціцеляў. Мая бабуля была веруючай. І ў армію я пайшоў з крыжыкам. Спавядаўся нават тады, калі быў афіцэрам, камуністам. Частку сваёй душы я пакінуў у Кемераўскай вобласці, дзе таксама прымаў удзел у царкоўных справах. У Краснаярску дапамагаў вяртаць да жыцця архірэйскі дом, які мае дачыненне да архіепіскапа Лукі Война-Ясянецкага. Гэты святы, дарэчы, са старадаўняга беларускага роду з-пад Наваградка.

**— Вы неяк казалі, што беларусам працей лічыць сябе рускімі. Чаму так адбываецца?**

— Таму што выгадна. Па грашах. Прычым рускімі яны становяцца ў Расіі, а не ў Беларусі. У нас, беларусаў, ёсць характэрная рыса — памяркоўнасць: не высоўвацца ўперад і не быць ззаду. Беларус не выстаўляе сваю беларускасць напаказ, але, калі спытацца: «Хто ты?», адкажа: «беларус». Нават калі і не размаўляе на мове.

**— Вы ведаеце і паважаеце родную мову. Але, на жаль, хапае людзей, якія не толькі не жадаюць размаўляць па-беларуску, але нават і чытаць...**

— Гэта няправільна. Беларусы павінны ведаць сваю мову. Магчыма, у жыцці яна камусьці і не спатрэбіцца, але ж калі ён прыйдзе да Бога, той спытаецца ў яго па-беларуску: «Хто ты такі?» Бо ён ведае, што ты беларус. І калі ты адкажаш на іншай мове, яшчэ невядома, куды цябе пашле.

**— Дзякуй за размову. Што б вы пажадалі чытачам «ЛіМа»?**

— Заставацца ў любых абставінах чалавекам. Наш час вельмі складаны. Мая бабуля сказала б: сурочаны. Мы павінны застацца тымі, кім з'яўляемся на самай справе.

**Нэлі ЗІГУЛЯ**

# Краіна старажытнай культуры

**Вандроўкі па замежжу на старонках «ЛіМа» працягваюцца. Гэтым разам аб'ект увагі — Рэспубліка Арменія — ганаровы госць XXIII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу. Армянская дэлегацыя плануе прывезці кніжныя навінкі розных жанраў: мастацкая і навукова-папулярная літаратура, кнігі для дзяцей, альбомы па архітэктуры і мастацтве.**

## УНІКАЛЬНЫЯ ПОМНІКІ

На выстаўцы будуць таксама прадстаўлены буклеты і фотаальбомы, якія знаёмяць з помнікамі армянскай культуры. У Арменіі захаваліся рэшткі адной з самых старажытных крэпасцей свету ў горадзе Эрабуні, язычніцкі храм Гарні, загадкавы стоўнхендж побач з паселішчам Караўндж... Гэтыя пабудовы нагадваюць пра бронзавы век, эпоху элінізму, магутную дзяржаву Урарту, час кіравання старажытных армянскіх цароў. Але гісторыя Арменіі не вельмі вядомая беларусам — таму падарожжы па гэтай краіне пакуль не трапляюць у пералік папулярных турыстычных маршрутаў.

Разам з тым Арменія блізкая для нас як краіна хрысціянскай культуры: 94% насельніцтва належаць да Армянскай апостальскай царквы, прычым асновы веравызнання выкладаюцца ў школах. Духоўны пастыр народа — першаіерарх царквы Каталікос усіх армян, які пажыццёва абіраецца на супольным сходзе духавенства і міран. Між чатырох тысяч унікальных помнікаў Арменіі большую частку складаюць помнікі хрысціянскай архітэктуры. Паломнікі наведваюць у першую чаргу манастырскі комплекс Гегард (IV стагоддзе), частка храмаў якога выдзеўбана ўнутры скал. Яшчэ адна славутасць — рэшткі велічнага хрысціянскага храма Звартнац (VII стагоддзе). Па яго ўзоры былі ўзведзены многія армянскія храмы, нават візантыйскі імператар жадаў пабудаваць такі самы храм у Канстанцінопалі!

## ДЗЯКУЮЧЫ ПЕРАКЛАДАМ

Ужо ў V стагоддзі армяне займелі свой алфавіт, распрацаваны прапаведнікам, асветнікам і лінгвістам Месропам Маштоцам. Асновай, магчыма, была адна з форм семіцкага алфавіта, альбо дахрысціянская армянская пісьмовасць. У V — VIII стагоддзях армяне перакладалі вядомых антычных аўтараў, што мела выключнае значэнне для сусветнай культуры. Арыгіналы многіх твораў былі страчаны, а іх тэксты цалкам альбо часткова захаваліся толькі ў армянскіх перакладах.

Армянская мова — адзіная дзяржаўная мова Арменіі. Разам з тым каля 70% насельніцтва валодаюць рускай: рэспубліка ўваходзіла ў склад СССР як саюзная рэспубліка. Цяпер у Арменіі працягваюць выходзіць рускамоўныя




перыядычныя выданні, з ліку якіх і літаратурна-мастацкі часопіс «Литературная Армения».

Па словах літаратурнага крытыка Сяргея Мурадзяна, намесніка галоўнага рэдактара «Литературной Армении», «сёння руская мова ў асяродку творчай інтэлігенцыі — гэта мова знаёмства з літаратурай і культурай іншых краін. Армянскія пісьменнікі за рэдкім выключэннем пішуць па-армянску, у секцыю рускамоўных аўтараў пры Саюзе пісьменнікаў Арменіі ўваходзяць пераважна крытыкі і перакладчыкі. Апошнім часам творы вядучых замежных пісьменнікаў і філосафаў усё часцей перакладаюцца на армянскую мову».

З дапамогай рускай мовы беларускі чытач можа пазнаёміцца з сучаснай армянскай літаратурай: дастаткова зайсці на сайт «Литературной Армении» і напярэдадні кніжнай выстаўкі-кірмашу пагартаць архіўныя нумары. Часопіс выдаецца чатыры разы на год і змяшчае пераклады самых рэйтынгавых твораў, якія адпавядаюць сур'ёзным мастацкім патрабаванням. На старонках выдання таксама прадстаўлена публіцыстыка, эсэістыка, літаратурная крытыка.

## АКТУАЛЬНЫЯ ТЭМЫ

Армянская літаратура такая ж старажытная, як армянскае пісьменства, бо асветнік Месроп Маштоц не толькі пераклаў Біблію на родную мову, але і пісаў духоўныя вершы, павучанні-прытчы. На працягу стагоддзяў армянская нязменна заставалася мовай мастацкай творчасці, хаця ў гісторыі краіны было нямала трагічных старонак, якія асэнсоўваюцца сучаснай літаратурай. Падчас XXIII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу плануецца правесці прэзентацыю чатырохмоўнага паэтычнага зборніка, аўтары якога загінулі напачатку XX стагоддзя.

Якой паўстае сучасная армянская літаратура? Па словах старшыні Саюза пісьменнікаў Арменіі Эдварда Мілітаняна, «праблемы нашага часу амаль заўсёды ўскладнены ў творах зваротам да гістарычнай памяці». «Сучасная літаратура закранае праблемы эміграцыі, нацыянальна-вызваленчай вайны ў Арцаху напачатку 1990-х гадоў, адлюстроўвае змены менталітэту і псіхалогіі, абумоўленыя зрухамі геапалітычнага і сацыяльнага характару», — распавядае Сяргей Мурадзян.

Як зазначае крытык, у Арменіі назіраецца агульнае для ўсіх краін СНД змяншэнне цікавасці да літаратуры. «Наклады кніг і літаратурнай перыёдыкі звычайна



*Эдвард Мілітанян.*

складаюць 300 — 500 асобнікаў. Людзі сярэдняга ўзросту і сталага веку аддаюць перавагу класікам альбо ўжо вядомым пісьменнікам. Сучасная літаратура цікавіць у першую чаргу моладзь, якая сочыць за навінкамі і абмяркоўвае іх». Найбольшай папулярнасцю ў Арменіі, як і ў іншых краінах свету, карыстаецца гістарычная проза, дакументалістыка і літаратура для дзяцей.

«Арменія мае цікавую літаратуру, але наш кніжны рынак вельмі вузкі, — дзеліцца клопатам Эдвард Мілітанян. — Мы імкнёмся выйсці за межы краіны, прадставіць творчасць армянскіх пісьменнікаў на новых пляцоўках. У маштабе СНД Беларусь — у авангардзе супрацоўніцтва ў гэтай сферы. Варта адзначыць кнігу «Люблю цябе, айчына», якая складаецца з твораў сучасных армянскіх і беларускіх пісьменнікаў. Гэты зборнік — з 11-томнай серыі «Сугучча сэрцаў» — маштабнага праекта, які ўпершыню пасля развалу СССР прадставіў чытачам літаратуру СНД».

Бліжэй пазнаёміцца з армянскай літаратурай і культурай атрымаецца падчас XXIII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу — і, вядома, у наступных нумарах газеты.

**Юлія ШПАКОВА**

# Самая моцная зброя ў жыцці

**Так пра мастацтва сказаў армянскі мастак Армэн Ванцян, прадстаўляючы ў галерэі «Акадэмія» выстаўку выкладчыкаў школы мастацтваў імя Лазара Сар'яна «Люблю Арменію». Яно дапамагае спраўляцца з цяжкімі выпрабаваннямі, падказвае шукаць толькі правільныя шляхі наперад і вучыць ніколі не здраджваць сябе.**

Мастак патлумачыў, што выстаўка «Люблю Арменію» была арганізавана з мэтай узмацнення культурных сувязей, сяброўства і ўзаемаразумення паміж Арменіяй і Беларуссю, а таксама для стварэння інтэрактыўнай пляцоўкі абмену вопытам армянскіх і беларускіх мастакоў. Ён лічыць, што падобная практыка выставак можа прыцягнуць увагу творцаў, выкладчыкаў жывапісу з другіх краін свету, дзеля таго каб быць разам і прадумваць новыя, стымулюючыя канцэпцыі па навучанні дзетак.

У аснове экспазіцыі — жывапіс, графіка, скульптура і творы дэкаратыўнага мастацтва. Выстаўка арганізавана ў межах міжнароднага мастацкага праекта «На сваёй зямлі», які праводзіцца ў Беларусі з 2006 года.

Кожная работа маладых мастакоў паказвае шчырую, імклівую любоў да сваёй краіны, да яе прыроды, гісторыі, традыцый і культуры. Каляровыя пейзажы, якія з першага погляду нагадваюць сонечныя дні захоўваюць у сабе пэўны вобраз, сімвал альбо адну маленькую дэталь, якая дапамагае гледачу бліжэй пазнаёміцца з сонечнай краінай, адчуць яе цеплыню, прайсціся ўздоўж знакамітых армянскіх камянёў.

Каардынатар Міжнароднага конкурсу жывапісу і графікі «На сваёй зямлі» Наталля Святкіна, якая таксама прыняла ўдзел у адкрыцці выставы, падкрэсліла, што мастацкія працы прадстаўленых творцаў: Артура Саргсяна, Аліны Казаран, Армэна Ванцяна, Анжэлы Мачкалян, Арпінэ Авагян, Артура Акапяна і Ануш Аруцюнян абсалютна ўдалы прыклад любові да сваёй справы. Яна адзначала, што ў мастакоў жывы, сапраўдны, зусім недзяжурны падыход да творчасці, бо кожную лінію яны гатовыя выводзіць па некалькі разоў, каб у выніку атрымаўся сінтэз прыгажосці і сэнсу.

Не гледзячы на тое, што экспазіцыя складаецца толькі з карцін маладых мастакоў, адчуваецца іх сур'ёзнасць у падыходзе да сюжэтаў. Заўважна, што яны з хваляваннем адносяцца да кожнай адзнакі іх работ і шчыра дзякуюць за магчымасць быць прадстаўленымі аматарам мастацтва ў самым цэнтры Мінска.

**Вікторыя АСКЕРА**



*Ануш Аруцюнян «Царква Святой Сагмасаванк».*

**Са шматграннага спектра сучаснай армянскай паэзіі прапануем чытачам пазнаёміцца з творамі старшыні Саюза пісьменнікаў Арменіі Эдварда Мілітаняна, Генрыка Эдаяна, Гукаса Сіруняна, Арцёма Аруцюняна, а таксама маладых аўтараў, пераствoранымі па-беларуску.**

Эдвард МІЛІТАНЯН

## Белая сукенка

*Калі дрэвы лістоту скідалі,*
*З нашай вуліцы добра відаць было*
*Арарат.*

*Дзядзька Казар, наш сусед, сядаў ля*
*парога*
*Ды на горныя схілы глядзеў.*

*Ванскі хлапчына з сяла Джанік*
*З сястрою маленькай*
*Падчас бою ацалелі цудам.*
*Казар распавядаў нам,*
*Як ледзьве ўдваіх да гары дабрылі,*
*На схілы яе падняліся,*
*Спусціліся…*

*Дакладней, ён спусціўся адзін:*
*Ад голаду памерла сястра.*
*І Казар пахаваў яе,*
*Яміну выкапаўшы рукамі.*
*У Арарацкую нізіну*
*Адзін ён спусціўся — у родзе апошні.*
*Азірнуўшыся ж, заўважыў:*
*Белая сукенка сястры*
*Выбілася з-пад зямлі,*
*Трапятала на ветры.*

*Калі дрэвы лістоту скідалі,*
*Ясна відаць было Арарат,*
*І дзядзька Казар глядзеў на сінія схілы.*

**З армянскай.**
**Пераклад Яны ЯВІЧ**

## Паэт

Лермантаву

*Яго баяцца, быццам злога шэршня,*
*Жахаюцца яго, бо мае джала.*
*Ды ён — пчала,*
*Ён словы-мёд збірае*
*І, зтораны, вяртаецца да вулля.*

*Здзіўлёныя, яны глядзяць, як ціха*
*Згасае ён ад самай лёгкай пстрычкі.*

*Паэт памёр, ды засталіся дзеці,*
*Памёр паэт, ды словы засталіся.*
*Ён быў пчалою — стаўся цэлым роем,*
*Быў аксамітам — стаў лязом сталёвым.*

*І голас яго велічны звініць,*
*Нібыта звон,*
*Нястомны звон*
*Стварэння.*

**З армянскай.**
**Пераклад Таццяны СІВЕЦ**

Генрык ЭДАЯН

## Недасяжнае

*Недасяжнае — гэта тое, што побач.*
*Можаш падысці, пакратаць,*
*але пры гэтым*
*Ты імкнешся да іншага. Недасяжнае —*
*гэта тое,*
*Што тваім робіцца тут і цяпер,*
*Але ты шукаеш яго*
*У іншых месцах. Недасяжнае —*
*гэта тое,*
*Што ты называеш так часта,*
*Што ўжо не знаходзіш яго. І хтосьці*
*У цябе адымае яго, ты — страта твая.*
*Па крупіцах збяры*
*Усе аскепкі жыцця свайго,*
*Раскіданыя там і тут,*
*У малюнак злучы, пабудуй сябе сам*
*І вымерай цень свой —*
*Тое, што насамрэч недасяжнае.*

## Усё што заўгодна

*Можаш рабіць усё што заўгодна,*
*Калі табе няма чаго рабіць;*
*Казаць што заўгодна,*
*Калі няма чаго сказаць;*
*Можаш ісці куды заўгодна,*
*Калі няма куды ісці.*
*Можа здарыцца ўсё што заўгодна,*
*Калі не здараецца нічога;*
*Калі ўсё наўкола правільна,*
*Значыць, штосьці не так, як мае быць;*
*Калі час адкрываецца перад табою*
*У поўны свой рост,*
*Гэта значыць, што часу не засталося.*
*Усё скончана.*

**З армянскай.**
**Пераклад Яны ЯВІЧ**

Гукас СІРУНЯН

***

*Саломінка,*
*У восеньскім полі*
*Самотна цягнешся ўгору.*
*Круціцца поўдзень вакол цябе,*
*Быццам стракатае кола,*
*І ветрык пакінуў забавы,*
*Стаў працяглаю песняй.*
*Твой стан выгінасты*
*Зоркамі ноч агарнула,*
*Як колас — зернем налітым.*

*Саломінка,*
*Усё гэта я гавару*
*Услых, да цябе я звярнуўся.*
*А сабе ледзь чутна шапчу.*
*Не ведаю, што, але, пэўна,*
*Гэта ўсё застанецца*
*Цёмнай, дзівоснай маёй таямніцай.*

*І зараз,*
*Пташка мая светлацэню,*
*Размовай празрыстай і простай сваёй*
*Раскрыеш планеце вялізнай*
*Глыбінны сэнс*
*Цьмяных усіх таямніц.*
*Як добра,*
*Што ролі мы памянялі:*
*Ты — паэт,*
*Я — пачуццяў раці,*
*І рухі думак,*
*Парыў душэўны.*
*Магчыма,*
*Пакліканне ўласнае*
*Мы сёння з табою*
*Знайшлі?*



Фота Ірыны Абрамян.

Гара Арарат.

Арцём АРУЦЮНЯН

## Рэкі Арцаха

*Гарачыя рэбры скал,*
*Спякота, як свечка,*
*Бяжыць па вяршынях тапаляў,*
*Святло пульсуе ў скронях тваіх,*
*Здаецца, паветра вось-вось загарыцца.*
*І хутка ўсё ператворыцца ў глыбу ўцёса.*
*Мы пойдзем скупнуцца ў Хор-Дзор,*
*Рака дорыць водар сівой прахалоды,*
*Прыцягвае, вабіць сваёй глыбінёй,*
*Нябачнымі рыбамі,*
*Што нам падобны.*
*І цень прабяжыць*
*У самае сэрца вады.*
*І полымя ў танцы*
*Імкне да чужых берагоў*
*І далей — насустрач садам,*
*Якія ў кароне квітнеюць з лісця.*
*На целе маім пакідае свой след,*
*І поўдзень сустрэць абяцае.*
*А ў нетрах лісця — зялёная ціш і спакой,*
*І дзень, быццам саван, беллю сваёй*
*асвятляе.*
*І нехта нябачна, нячутна*
*Кіруе сонца заходам,*
*І ў шатах можна заўважыць сляды*
*Зялёных летніх начэй.*
*Сляды праменяць у змроку малочным.*
*Дні чысціні. Як скуру старую,*
*Пакінулі мы сябе ля ракі.*
*І зноўку вярнуліся ў свет бясклапотны.*
*А ноч густая і нават сляпая*
*Ад зор вывяржэння; і двойчы глухая,*
*Блукае яна між адрын,*
*Сургучом запячатаўшы сад.*
*Шлях працягвае свой*
*Разам з таемнай*
*І даўняй сваёй прахалодай.*

**З армянскай.**
**Пераклад Юліі АЛЕЙЧАНКА**

## Маладыя галасы Арменіі

Марыям КАРАПЕЦЯН

***

*Усё, што збылося, — прыгожымі*
*пагоркамі,*
*што ў душы нешта прыемнае пакінула —*
*сказ*
*і ўсімі рэчамі, якія запамінаюцца,*
*зачароўвала —*
*мільярдамі зорных пылінак…*
*Да чаго ж цудоўныя атмасферы!*
*Па чарзе далучаліся імёны дзён*
*і запавольваліся хістанні дзён —*
*наяве*
*заплюшчанымі вачыма*
*разглядзець бусла пад аблокамі.*
*Дзеянні да дзён схіліліся…*

Аруцюн АВАКІМЯН

## Быццё

*Ад нястомнага дыхання натоўпу*
*Валасы мае з каранямі думак, што ж вы,*
*Нібыта дзьмухаўца сухое насенне,*
*Не азірнуўшыся, абляцелі з галавы.*

*Людзі, што кланяюцца, схіляючы калені*
*і пакланяючыся,*
*Зробленыя з гумы, без імёнаў, без твараў,*
*Вось вы прыкінуліся эскалатарам зноўку,*
*Пад падэшвамі сляпых падарожных*
*распасцерліся ніцма.*

*Старажытныя храмы, з-пад аблокаў*
*наўпрост,*
*Дабравесцяць званамі: «Усявышні,*
*даруй нам!»,*
*Скрыня для ахвяраванняў у шчылінах,*
*і там*
*Прапаведніка зрэнка, мы бачылі,*
*бліщчыць.*
*А людзі ўсё кланяюцца, схіляючы калені*
*і пакланяючыся…*
*Ад бяссілля ношай стала правая рука,*
*Я яе абрэзаў, як непатрэбны сук, ячшчэ*
*Маё рукаво скрываўленае лунае*
*пад ветрам.*

Рузанна ВАСКАНЯН

***

*У сакавіта-зялёным лесе*
*мяне як схаваеш:*
*чырвоную і апаленую.*
*Але, ведаеш, былі дні,*
*калі па свеце бегала зялёнай,*
*рукамі я сабе не дапамагала, бегла,*
*нагамі — нават — я сабе не дапамагала,*
*бегла…*
*Сёння я ў сябе звярнулася, цела стала*
*каробкай, што серай спалілі,*
*каробкай, якая да зямлі прыкутая,*
*да зямлі, якая на абдоймы здольная…*
*Невыносна*
*нават для зямлі*
*маё апаленае цела —*
*вочы мае прыкутыя да зямлі,*
*там няма нябёсаў —*
*толькі сакавіта-зялёная паўсюдна*
*зямля, зямля, зямля…*
*У лесе маім, у тым лесе*
*ўсё такое зялёнае.*
*Дык, можа, зазелянець і мне…*

Ншан АБАСЯН

## Калыханка

*Сястрычка мая, усміхаючыся,*
*Далонькай слёзнай мой лоб песціць…*
*На танюткіх пальчыках яе —*
*сіняя казка,*
*Мяккая і закалыхваючая…*

***

*Маўклівы поўдзень*
*з даўгакрысай манаскай расы*
*кáпае чарэшня ў пясок…*

Эдуард АРЭНЦ

***

*Жыццё пражывае мяне*
*з усімі маімі нюансамі,*
*а я абарочваюся вакол яго,*
*нібыта фарба —*
*вакол незнаёмага пэндзліка.*
*Мае палотны дзіравыя,*
*нібыта японская манетка,*
*праз якую па чарзе*
*знікаюць любімыя жанчыны,*
*з пераздонам маіх чароўных страт,*
*і пераздон гэты ўвесь час аддаляецца…*
*І мае апладысменты*
*куды больш важкія,*
*чым я сам.*
*І таму я сабраў іх*
*на сваёй далоні,*
*нібыта скамечаныя купюры,*
*і захоўваю іх для канца, для смерці,*
*каб зацыраваць яе маскі,*
*на якіх аднойчы з'явяцца дзіркі,*
*нібыта на маіх палотнах,*
*і я са звонам выплюхнуся з іх,*
*і жыццё працягне пражываць мяне*
*з усімі маімі нюансамі…*

**З армянскай.**
**Пераклад Генадзя Аўласенкі**

# Станіслаў ТРЫФАНАЎ: барытон для яркіх характараў



*Станіслаў Трыфанаў у ролі Фёдара Шаклавітага ў оперы «Хаваншчына» М. Мусаргскага.*

**Калі ён спявае партыі герояў, зразумела, як ім не проста здзяйсняць учынкі. Калі ён спявае нягоднікаў, ім хочацца спачуваць. У Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета яго назвалі лепшым артыстам оперы за мінулы год. Але і да гэтага адзначалі ролі ў яго выкананні. Ён можа выглядаць змрочным і каварным, але і чуллівым, рамантычным. Пра рамантыку жыцця артыстаў оперы, здольных голасам перадаваць складаныя пачуцці, мы разважалі з заслужаным артыстам Беларусі Станіславам Трыфанавым:**

Адчуваеш, калі ў ролі можаш выкарыстаць усе свае моцныя бакі. Матэрыял заўсёды на першым месцы. Напрыклад, што да партыі Гразнога ў оперы «Царская нявеста» Рымскага-Корсакава (прэм'ера мінулага года), то было зразумела, што мне ў ёй будзе зручна і добра і што на мяне ляжа выдатна гэтая роля. Але на адных знешніх дадзеных і прадвызначанасці голасу далёка не паедзеш. Каб уразіць публіку, трэба стаміцца. Дапамагае такая рыса, як эмацыянальнасць, псіхалагічнае супадзенне, з такімі героямі, як Гразной ці Галандзец (з оперы Р. Вагнера «Лятучы Галандзец»). Таксама былі добрыя водгукі на майго Скарпіа («Тоска» Дж. Пучыні) на розных фестывалях. Кізгайла ў «Сівой легендзе» (Д. Смольскага), Ігар (герой оперы А. Барадзіна) — гэта выйгрышныя персанажы з яркім характарам. Вялікае шчасце, што я магу выконваць драматычныя партыі, быць у іх і спеваком, і акцёрам. Таму што першыя 10 — 15 гадоў працы ідуць на тое, каб вучыцца спяваць на сцэне, выдаваць патрэбны гук. Ёсць пэўны эталон: гэтая партыя павінна быць выканана вось так. Каб гэта здарылася, патрэбна шмат працы. А далей, ці разаўецца спявак у добрага артыста, час пакажа. Опера — від мастацтва, у якім узровень майстэрства праяўляецца пазней. Кажу гэта як чалавек, які ў оперы працуе другі дзясятак гадоў.

Спачатку не асабліва цікавіўся операй. Мяне прыцягвала харавая музыка. Калі прыйшоў займацца да Адама Мурзіча, выкладчыка Мінскага музычнага вучылішча, то першы год не хадзіў нават у тэатр. Усё па канцэртах бегаў: філармонія, у розных харах спяваў, у тым ліку царкоўных. Тады, у паслясавецкі час, духоўная музыка толькі пачала ўзнімацца. У царкве я яшчэ ў 10 класе падпяваў. Цікавіўся рознай музыкай. Прыехаў паступаць у вучылішча з кліпсай, з доўгімі валасамі — быў рокер з гітарай. На харавое не мог пайсці, таму што ў мяне не было музычнай школы. Пайшоў на вакал, тым больш што мне параілі цудоўнага педагога. На другім курсе ў мяне стала атрымлівацца. Спадабалася самому — тады ў оперу патрапіў. «Царская нявеста» была адной з першых опер, якую я пачуў, і дагэтуль адна з самых любімых. Музыка Рымскага-Корсакава цудоўная з першай да апошняй ноты. Дзякуй яму вялікі за такога няпростага персанажа, як Гразной.

Дзяўчаты ў тэатры кажуць: «Які ў цябе добры Гразной». Што адказаць? Паглядзіце ўважліва на яго: двурушны, падманшчык, забівае (а Панджавідзэ як рэжысёр выводзіць гэта на гледача) у падваротні свайго сябра Лыкава, якога толькі што цалаваў на вяселлі. Што ў ім можа прыцягваць? Але жанчыны разумеюць, што ён дзеля кахання гэта рабіў. Кранае трагедыя персанажа. Магчыма, гэта зачараванне зла. Таму што Скарпіа ў «Тосцы» такі ж. Я даўно яго ў Мінску не спяваў, усё больш за межамі (у Казані, Самары), але калі выканаў, то водгукі былі добрыя. Дзіўна, што людзі сімпатызуюць адмоўнаму герою. Нават кампазітар сімпатызуе, таму што вельмі прыгожая музыка Пучыні. Напэўна, у маіх персанажах атрымліваецца нешта чалавечае. Хоць я як чалавек на такія вялікія страсці не здольны, можа, таму, што мне хапае гэтага на сцэне. І не трэба дома біць кулаком па стале…

Асабліва дарагія ролі, створаныя за апошнія 5-6 гадоў, у якіх ёсць драматызм. Зараз «Макбет» у нас нарадзе, ужо яго люблю: і музыка цудоўная, і Шэкспір, і проста цікава. Я вельмі шчаслівы чалавек, таму што ў оперны тэатр у Мінску прыйшоў, калі ён пасля рэканструкцыі зажыў цікавым жыццём, пастановак стала шмат. У 90 працэнтах з іх я прымаў удзел. Я сюды прыехаў ужо вопытным спеваком: пасля заканчэння Адэскай кансерваторыі 10 сезонаў адпрацаваў на сцэне Адэскага тэатра. Лічу, што ў артыста павінен быць рух. Рашэнне пераехаць з'явілася з-за чыста асабістых, бытавых прычын. Але я не памыліўся, што пераехаў: атрымаў шмат добрай працы. Я шчыра люблю Беларусь, люблю ментальнасць беларускіх людзей, мне падабаецца жыць у Мінску: горад прыгожы сваімі прасторамі.

Беларускую мову чуў з дзяцінства. Вырас у Гродне, хоць і не вывучаў беларускую ў школе (я рускі), няма праблем яе разумець і на ёй спяваць. Мне здаецца, што ў нас мала ідзе нацыянальнай оперы. Можа, матэрыялу годнага няшмат, але ж, напэўна, ён ёсць з савецкіх гадоў, іншая справа — упісаць яго ў цяперашні час. Напрыклад, Кіраўскі тэатр паставіў «Аповесць пра сапраўднага чалавека» — тэма вайны, і спектакль можа быць цікавым. Таксама як і опера «Сівая легенда» (паводле У. Караткевіча): драматычны сюжэт, каханне, адначасова народныя тэмы, батальныя сцэны. Музыка Дзмітрыя Смольскага з прыгожымі арыямі.

Акрамя мелодыкі музыкі, ёсць яшчэ мелодыка мовы. Оперныя тэатры звычайна працуюць на мове арыгінала. І ў нас ёсць практыка на некаторыя пастаноўкі запрашаць коўчаў па мовах. Над «Кармэн» з французамі працавалі (партыя Эскамільё мяне як барытона не праміналa), «Лятучага галандца» рыхтавалі разам з нямецкім пастаноўшчыкам, пад увагай была мова. Адмыслова вучыць мову ніхто не прымушае. Але калі хоць крыху разумееш, пра што спяваеш, то прасцей ствараць вобраз. Калі супрацоўнічаў з Сафійскай операй па пастаноўцы «Самсона і Даліды», дзе таксама французская мова, то я ўжо пачаў некаторыя знаёмыя абароты выяўляць. Лягчэй спяваць, калі адчуваеш пабудову фразы.

Салісты, якія ездзяць выступаць у іншыя тэатры, маюць вопыт, як увайсці ў спектакль з мінімальнымі стратамі. Можна праспяваць і пасля адной рэпетыцыі. Ёсць спектаклі з традыцыйнымі рашэннямі і нетрадыцыйнымі. Калі апошняе, то нейкія папярэднія размовы і тлумачэнні павінны быць. Аднойчы патэлефанавалі з Ерэвана і запрасілі тэрмінова на «Яўгенія Анегіна». Я яго спяваў шмат: у Адэсе, Іспаніі, Чэхіі, Мінску. Але там рэжысёр паставіў оперу як кіно. Я на авантуру пагадзіўся. Новым было тое, што падчас пісання ліста Таццянай Анегін увесь час быў побач з ёй. Аказалася складанае псіхалагічнае дзеянне — існаваць у запаволеным стане. А ў Казані, напрыклад, пастаноўка даволі стандартная. Калі прыязджаю туды, то за адну рэпетыцыю ўзгадваю, што рабіць. Ці «Тоска», якую я спяваю ў Самары, пастаноўка даволі сур'ёзная. Аляксандр Міхайлавіч Анісімаў, які там працуе як дырыжор, прыцягвае нас. Мы зрабілі цікавую працу з рэжысёрам Аляксандравым. Я 10 дзён працаваў над гэтай пастаноўкай — такія рэчы запамінаюцца даўжэй.

У Еўропе не вельмі любяць вялікія галасы, аддаюць перавагу акуратным спевам, інструментальным. Насамрэч вялікім голасам кіраваць складаней, патрэбна майстэрства, якім далёка не ўсе валодаюць. Зараз у свеце пераважвае нямецкая школа, стрыманыя спевы. Італьянскіх спевакоў не так і шмат. Але шмат славянскіх, у прыватнасці расійскіх — у «Метраполітан-опера», напрыклад, праз стасункі з Кіраўскім тэатрам. У нас жа наогул няма інстытута агенцтваў, а гэта даволі складаны свет, так проста не ўвойдзеш у гэтую сістэму. Зараз не публіка, а агент вырашае, хто будзе зоркай опернай сцэны. Вядома, ёй не стане бяздарны чалавек — у гэтую сістэму трапляюць, як правіла, нездарма. Але ёсць некалькі правіл: ты павінен быць медыяперсонай, трэба быць заспяваным у тэатрах класа «А» («Ла Скала», «Метраполітан» ці «Марыінка»). І трэба належыць да ўплывовых агентур (іх у свеце прыкладна 10). Тады ты будзеш з'яўляцца на канале «Мецца», у часопісах, мець добрыя ганарары. Але трэба шмат ездзіць, мець жалезныя нервы, быць гатовым на любыя ахвяры. Гэта як шоў-бізнес, толькі ў оперы. Сістэма даўно існавала, але наша пост-савецкая прастора інтэгравалася з ёю толькі ў апошнія 20 гадоў. Гадоў 10 таму я меў некалькі праслухоўванняў. Першае пытанне было пра месца жыхарства, трэба было жыць побач на пачатку кар'еры. А я чалавек не настолькі рухомы і актыўны.

Шмат тэатраў працуе з пастаяннай трупай, нават за мяжой — так танней. У нашым тэатры час ад часу спяваюць запрошаныя артысты, але рэпертуар у асноўным трымаецца на трупе. Спектаклі не падобны на спектакль. Адзін спектакль спяваў ужо 100 разоў — спакойна выходзіш, а іншы цяжкі і новы — забірае больш сіл, энергіі, голас стамляецца. Спець 2-3 спектаклі ў месяц — гэта ідэальна. А да спектакля, магчыма, спатрэбіцца ўзяць 1-2 урокі. Акрамя таго, ёсць дадатковыя працы (яны самі нас знаходзяць), дзе таксама спяваем. І ў тэатры ідуць адначасова рэпетыцыі будучых прэм'ер… А пасля спектакля хочацца дзень наогул нічога не рабіць. Ты эмацыянальна страчваешся. Пасля «Тоскі» ў мяне быў выклік — папрасілі падысці ўвечары рэпеціраваць «Макбет». Я прыйшоў, але эмацыянальна быў не гатовы працаваць. Бывае, што пасля цяжкага спектакля я ўвечары знаходжуся ў шоку, доўга не кладуся спаць…

Цяжка быць гледачом на спектаклях, адмовіўшыся ад свайго вопыту: слухаеш і аналізуеш, што і як робяць артысты. Атрымліваць задавальненне магчыма — ты ж адзначаеш добрае, што чуеш, таму што ведаеш складанасці твора. Нядаўна я быў на страхоўцы, калі Уладзімір Пятроў спяваў Набука. Ён спяваў арыю вельмі прыгожым гукам — люблю, як ён гэта робіць, і ведаю, як гэта цяжка. Я сядзеў і атрымліваў асалоду ад таго, як ён спраўляецца са складанымі месцамі, як ён падышоў да фіналу.

Блізкія — самыя шчырыя мае прыхільнікі. Але на ўсе спектаклі хадзіць складана для жонкі — малодшаму дзіцяці толькі паўтара года. Дзіна глядзіць іх у запісе, але ўсё змяніцца, калі яна вернецца ў тэатр, дзе працуе як салістка (сапрана). Жонка і старэйшая дачка — гэта мой фан-сектар. Для нашай справы пажадана, каб сям'я жыла тваім жыццём. У нас незвычайная прафесія, трэба разумець і прымаць шмат нюансаў. Разумець, чаму чалавек можа цэлы дзень прасядзець на канапе, уставіўшыся ў тэлевізар, і не прымусіш ні цвік забіць, ні градку ўскапаць, калі ў яго вечарам усяго толькі «Набука»…

Наша публіка — гэта ўрачы, настаўнікі, людзі з вышэйшай адукацыяй. І з невялікім даходам, на жаль. Меламанаў і прыхільнікаў оперы і балета ў нас не такая вялікая колькасць. Але гэта вельмі інтымнае мастацтва, жывыя спевы, без мікрафонаў, для невялікіх залаў. Калісьці, падчас зараджэння оперы ў Італіі, яна была дэмакратычным, папулярным мастацтвам, якое развівалася, станавілася больш складаным. Ім займаюцца, яго разумеюць не ўсе (элітнае мастацтва), але гэта не значыць, што яго не павінна быць і што яно не патрабуе выдаткаў ад дзяржавы, — гэта паказчык культурнага ўзроўню краіны.

Для поспеху спектакля не так важна, якая публіка ў зале — ён адбываецца на энергетычным узроўні, з узаемадзеяння партнёраў, аркестра, хору. І калі ўсё атрымліваецца, людзі адчуваюць, што адбываецца на сцэне: не могуць адарваць вачэй, разумеючы, што сталі сведкамі моманту стварэння мастацтва.

**Запісала Ларыса ЦІМОШЫК**

# Горад як пляцоўка для скульптуры



*Муза оперы. Аўтар — Канстанцін Селіханаў.*

**Сацыялістычны рэалізм саступіў у бок. Мастакі могуць свабодна выяўляцца і маюць права быць пачутымі. Гарадская скульптура, як і любы іншы від мастацтва, атрымала магчымасць быць самай рознай — ад класічнага рэалізму да незвычайных, радыкальных мадэрнісцкіх рашэнняў. І мы павінны былі гэта адчуць.**
**Але нават у Мінску, дзе сканцэнтраваны галоўныя фінансавыя і адміністрацыйныя сілы краіны, да гэтага часу няма свайго Парку скульптур, які мог бы стаць ідэальнай творчай і выставачнай пляцоўкай. Няўжо ў мікрараёнах сталіцы і маленькіх гарадах жывуць людзі, годныя хіба што гіпермаркета, але ніяк не добрых культурных аб'ектаў? Пра тое, што адбываецца са скульптурным аблічам Беларусі, распавялі скульптары Канстанцін Селіханаў і Аляксандр Шапо.**

## СПРАВА ПРА БРОНЗАВЫЯ ДУШЫ

«Дайце мне музей, і я запоўню яго», — казаў Пабла Пікаса. Так думаюць і беларускія скульптары. Ужо дзясятак гадоў вядзецца дыскусія пра адкрыццё Парку скульптур у цэнтры сталіцы. Ён мог бы стаць пастаянным «месцам жыхарства» незалежных твораў мастацтва. Беларускі саюз мастакоў, саюз архітэктараў і Мемарыяльны музей-майстэрня Заіра Азгура выступілі ініцыятарамі гэтага праекта. Цяпер ён знаходзіцца на разглядзе ў Мінгарвыканкама, дзе паведамілі, што паўстала шмат складанасцей і тэма патрабуе дапрацоўкі. Праўда, паабяцалі, што яна абавязкова будзе раскрытая. Тым часам у нарвежскім мястэчку Осла яшчэ з пачатку 1940-х працуе велізарны парк, дзе размясцілася больш за дзвесце філасофскіх скульптурных кампазіцый з самых розных матэрыялаў. Але навошта далёка хадзіць? У Пензенскай вобласці Расіі амаль дзесяць гадоў таму «вырас» скульптурны парк «Легенда», дзе кожны год праводзяцца міжнародныя сімпозіумы. А што ў нас?

«Беларускі Парк скульптур мог бы ператварыцца ў адно з самых арганічных месцаў сталіцы, дзе кожны чалавек далучаўся б да разумення мастацтва, таго, як яно ўзаемадзейнічае з паўсядзённай прасторай. Добра, калі на тэрыторыі парку праходзілі б інсталяцыі, перформансы, пленэры. Атрымалася б паўнавартасная творчая пляцоўка», — лічыць Аляксандр Шапо.

Варта ўзгадаць выстаўкі скульптурных твораў, якія праходзілі летам у раёне Верхняга горада, ці мастацкі праект «Арт-астравы» на Камсамольскім возеры… Колькі людзей яны сабралі! Выходзіць, ёсць тыя, хто ўмее сузіраць і разумець мастацтва, якое, у сваю чаргу, выходзіць з засценак музеяў на вуліцы.

«Іншая справа, што "Арт-астравы" былі добраахвотнай ініцыятывай, пабудаванай на энтузіязме мастакоў, якія, як і "Альфа-банк", выступалі свайго роду мецэнатамі. Калі мы хочам рэалізоўваць гэты праект і далей, трэба падумаць аб тым, што мастацтва — таксама праца, якая павінна аплачвацца», — дадае Канстанцін Селіханаў.

## ДОБРА, АЛЕ МАЛА

Дарэчы, у найбліжэйшы час у Мінску, ізноў жа, у раёне Верхняга горада, запланавана ўсталяваць скульптуру-дуэт з выявамі драматурга Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча і кампазітара Станіслава Манюшкі — за размовай на лаўцы. Аўтары — скульптары Леў і Сяргей Гумілеўскія. А жыхары Слуцка змогуць атрымаць асалоду ад манумента Анастасіі Слуцкай, твора Сяргея Аганава.

Тым не менш стварэння асобных кампазіцый недастаткова. Мінску патрэбная міжнародная пленэрная дзейнасць у галіне як скульптуры, так і іншых відаў мастацтва, больш адкрытая культурная палітыка. «Якія асацыяцыі ў замежнікаў з Парыжам? Навала музеяў і галерэй. Дык вось Мінск павінен быць не проста чыстым горадам, а месцам, насычаным культурнымі пляцоўкамі і падзеямі. Арт-прастора сфарміруецца з часам, калі дзейнічаць і не баяцца памылак», — упэўнены Аляксандр Шапо.



*Канстанцін Селіханаў.*

## ПРАБЛЕМЫ — НА ПАВЕРХНІ

Якіх скульптур не хапае Мінску? Тых, што вярнулі б нас да сваёй, незалежнай, гісторыі. «Але няма спіса людзей, якія павінны быць увекавечаны ў найбліжэйшыя гады, таму складана нешта прагназаваць. Постацей у беларускай культуры хапае, ці гэта Быкаў або Караткевіч, але яны не пазначаныя належным чынам», — адзначае Аляксандр Шапо.

Любы аб'ект мастацтва трэба не проста «паставіць», а гарманічна ўпісаць у навакольную прастору. Спрыяльнае для скульптур асяроддзе ў сталіцы абмежавана. Мінск падчас Другой сусветнай вайны быў моцна разбураны,аднаўляўся практычна з попелу. Чаму ў Верхнім горадзе амаль любы твор будзе глядзецца? Таму што там захавалася гармонія асяроддзя, сугучная па маштабе чалавеку. На думку Канстанціна Селіханава, пры будаўніцтве будучых раёнаў горада трэба адразу прыцягваць мастакоў. А не наадварот: ствараць дамы, а потым ламаць галаву, як выратаваць людзей ад шэрай руціны і аднастайнасці.

«Вядома, развіццё скульптуры прама прапарцыянальна эканамічнай сітуацыі, так што праблема не толькі ў разуменні, але і ў недахопе сродкаў, бо той жа манумент з бронзы — досыць дарагое задавальненне. Добра, што ён ствараецца на стагоддзі. У гэтым выпадку варта было б больш актыўна прыцягваць мецэнатаў», — перакананы Канстанцін Селіханаў. Для тых, хто ахвяруе свае сродкі, патрэбны рэальныя падатковыя льготы і больш дакладнае заканадаўства. У нас пакуль у гэтай галіне — толькі пачатак дыялогу.

## ПАДАРОЖЖА НА «КРАЙ ЗЯМЛІ»

Калі ў цэнтры сталіцы скульптур дастаткова, то варта ад'ехаць на ўскраіну горада... І цябе ахутвае туга ад сузірання спальных раёнаў, дзе акрамя бетону і шкла амаль нічога няма, а дамы існуюць у чыстым полі. Якія скульптуры можна (і трэба) усталёўваць там? «Высокія, хай нават 10-метровыя, абстрактныя, яркія, незвычайныя — буйнамаштабныя праекты, здольныя канкурыраваць з асяроддзем. Як металічныя павукі Луіз Буржуа ці Нябесная сфера Аніша Капура ў Чыкага. Але ў нас пакуль вельмі добра развіваецца толькі будаўніцтва гандлёвых цэнтраў», — распавядае Канстанцін Селіханаў.

Скульптар успамінае падобную сітуацыю з невялікімі гарадамі: «Бо чым яны адрозніваюцца ад сталіцы? Людзі ўсюды аднолькавыя. Калі ва Уздзе хацелі паставіць кампазіцыю з бронзы, хтосьці прапанаваў зрабіць яе з пластмасы. Маўляў, навошта? А чаму жыхары правінцыйнага горада павінны атрымаць танны матэрыял ці не самага цікавага аўтара? Яны маюць поўнае права на твор вялікага мастака. Мэрыі невялікіх гарадоў у Еўропе імкнуцца прыцягваць лепшых. А ў нас чамусьці пануе самапаніжэнне».



*Аляксандр Шапо.*

*Фота з сайта www.onliner.by.*

## АГОЛЕНАЯ СУТНАСЦЬ

Галоўная роля скульптуры, па словах Канстанціна Селіханава, — змяняць і пераўтвараць прастору. Скульптура ставіць кропку, падводзіць вынік. Завяршае вобраз месца, у якім знаходзіцца. Напаўняе асяроддзе чалавека эстэтыкай, абуджае пачуцці і думкі.

У нашай краіне, спадкаемцы Савецкага Саюза, так ужо павялося, што скульптура закліканая абавязкова выконваць пэўную функцыю — ці гэта помнік важнаму дзеячу альбо гісторыя, звязаная з канкрэтным аб'ектам побач. Больш няма стылістыкі сацрэалізму, але мы шмат у чым рухаемся па інерцыі. Хрэстаматыйныя прыклады — ляснічы каля Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта, сям'я пакупнікоў недалёка ад ЦУМа, гандлярка побач з Камароўскім рынкам... Такія народныя скульптуры важныя і патрэбныя, але неабходны і іншы, больш разняволены падыход да мастацтва.

Постсавецкі чалавек імкнецца да таго, што ясна і зразумела, раскладзена па паліцах. Гэта ініцыюе скульптуру толькі пэўнага роду. «Памятаю дыскусію ў Нацыянальнай бібліятэцы, калі адзін з аўтараў прапаноўваў аголеную постаць, але чыноўнік усклікнуў: "Што вы тут лазню арганізоўваеце?" Невуцтва ў чыстым выглядзе. З іншага боку, сітуацыя пачынае мяняецца да лепшага, многія элементарныя рэчы ўжо не трэба даказваць», — перакананы Канстанцін Селіханаў.

## ПАРКІ Ў ЧЫСТЫМ ВЫГЛЯДЗЕ

Казаць пра паркавую скульптуру як частку гарадской немагчыма без апісання асяроддзя, дзе яна павінна «жыць». Але і тут усё не так бясхмарна. «Трэба вярнуць паркам горада значэнне месцаў, дзе людзі проста шпацыруюць, атрымліваюць асалоду ад прыроды, дыхаюць свежым паветрам, а не стаяць каля бясконцых палатак з папкорнам ці састарэлых атракцыёнаў. У нас чамусьці нехта вырашыў, што людзей трэба пастаянна забаўляць, вадзіць за руку. Як, напрыклад, бязлітасныя аніматары на карпаратывах, якія галосяць свае бясконцае «ўра-ўра!». А можа, нікому гэта не трэба? Дайце людзям самастойна адпачываць! І скульптура ўспрымаецца такім жа чынам. Яна павінна абавязкова на нешта паказваць, да чагосьці заклікаць», — іранізуе Канстанцін Селіханаў.

І тут жа прыводзіць прыклад: «У парку Чалюскінцаў ёсць выдатная алея, закладзеная яшчэ паўстагоддзя таму. Але на самым бачным месцы паставілі стандартную, жалезную «пуню», дзе летам гандлююць папкорнам. У астатні час палатка стаіць зачыненай і псуе цудоўны пейзаж. Чаму б не зрабіць так, як у Вашынгтоне альбо Рыме? Прыязджае акуратная каляска з таварам, а вечарам з'язджае. Усё. І грошай зарабілі, і пейзаж не сапсавалі. Адміністрацыі парку вельмі цяжка да гэтага дадумацца? Ствараем гадамі асяроддзе, дзе працуюць архітэктары, ландшафтныя дызайнеры, а потым прыходзіць «гандаль» і ўсё знішчае. У Стакгольме ёсць падобны парк, дзе людзі катаюцца на лыжах. Каб зрабіць яго больш прывабным, заснавалі музей скульптуры з велізарным кафэ. Сем'і гадзінамі там адпачываюць. Што ж перашкаджала і ў парку Чалюскінцаў, напрыклад, не ліквідаваць канцэртную залу, а ператварыць яе ў гандлёвы цэнтр? І ўсе гэтыя славутыя кропкі грамадскага харчавання туды перанесці...» — прапаноўвае скульптар.

Напэўна, з такім падыходам у гарадскіх парках, скверыках ці на алеях стала б чысцей і спакайней, нічога б не перашкаджала сузіраць хараство прыроды, а менавіта такая абстаноўка моцна спрыяе з'яўленню новых скульптур і цікавых арт-аб'ектаў.

Марыя ВОЙЦІК

**Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцэра»**

# Птах высокага палёту

**Шырока раскінуў крылы, выпырхнуўшы з гнязда, нястомны птах. Паляцеў высока, трымаючы курс на справядлівасць, роўнасць, братэрства, кіруючыся вечнымі ідэаламі, абараняючы прыгнечаных. Магутныя крылы распасціраліся над светам — Францыя, ЗША, Польшча, Швейцарыя… Яго прыцягвала свабода. І ён быў аддany ёй да апошняга. 270 год назад нарадзіўся слынны змагар за справядлівасць і незалежнасць Тадэвуш Касцюшка. Памяць пра яго захоўваюць у Мемарыяльным музеі-сядзібе ў Мерачоўшчыне (за 1,5 км ад горада Косава, Івацэвіцкі раён Брэсцкая вобласць), дзе наш славуты зямляк станавіўся на крыло.**




*Барэльеф Тадэвуша Касцюшкі на камені пры ўваходзе ў музей.*

— Першапачаткова сядзіба была пабудавана ў 1720 годзе, — распавядае дырэктар музея Наталля Сушко. — Сюды ў 1730 годзе прыязджае бацька Тадэвуша Касцюшкі Людвік Тадэвуш Касцюшка-Сяхновіцкі. Тут стварае сям'ю. Але ў гады Вялікай Айчыннай вайны, у 1944 годзе, аднапавярховы драўляны дом Касцюшак-Сяхновіцкіх згарэў. Застаўся толькі разбураны фундамент. І да 1987 года не было ніводнага памятнага знака, які б сведчыў пра тое, што менавіта ў гэтым краі нарадзіўся вялікі сын беларускай зямлі, Нацыянальны герой Польшчы і Амерыкі, ганаровы грамадзянін Францыі Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка.

Першы невялікі камень быў устаноўлены тут у 1987 годзе. У 1999-м з'явіўся новы з барэльефам Касцюшкі, які можна ўбачыць пры ўваходзе ў музей сёння. У 2003 годзе пачынаюцца археалагічныя раскопкі. Знойдзены фундамент і падвальнае памяшканне. На фундаменце пачынаецца будоўля — аднаўленне дома. За аснову ўзялі літаграфію Міхаіла Кулешы 1845 г. (гэта першы малюнак, дзе адлюстраваны пачатковы выгляд дома Касцюшкі) і Напалеона Орды (пасля рэстаўрацыі дома Касцюшкі, праведзенай сынам Войцеха Пуслоўскага Вандалінам Пуслоўскім (скончана ў 1857 г.), праз 26 гадоў пасля Міхаіла Кулешы, на Мерачоўшчыне пабываў Напалеон Орда і пакінуў малюнак адноўленай сядзібы на фоне ўзведзенага Палаца Пуслоўскіх). Адкрыўся мемарыяльны музей 23 верасня 2004 г.

Экспазіцыя ўмоўна падзяляецца на 2 часткі — мемарыяльную і гістарычную. У мемарыяльнай частцы ўвасоблены быт сярэдняй шляхты, выхадцам з якой быў Тадэвуш Касцюшка. Першы пакой мемарыяльнай часткі — сені. Тут варта звярнуць увагу на дзве лесвіцы. Адна прывядзе ў падвальнае памяшканне з падлогай, выкладзенай вялікімі камянямі ў тыя далёкія гады XVIII ст., другая — на мансарду зверху.

Са сцен у сенях «глядзіць» Палац Пуслоўскіх — выгляд не сучасны, а які быў да пажару ў 1944-м: парослы дрэвамі, сярод якіх праглядаюцца статуі. Сёння яны не захаваліся. З іншых выяў у сенях — касцёл Святой Троіцы Косава, дзе Тадэвуш Касцюшка быў хрышчоны.

Асноўная ідэя мемарыяльнай часткі экспазіцыі — не толькі аднавіць інтэр'ер шляхецкага дома, але і ўвасобіць вобраз сям'і. Гаспадар дома, бацька Тадэвуша Касцюшкі Людвік Тадэвуш Касцюшка-Сяхновіцкі, любіў паляванне. У сенях пудзілы жывёл, птушак. Далей кухня. Печ з драўляным, медным, гліняным посудам, абедзенны стол. Уяўляецца гаспадыня. Маці Тадэвуша Касцюшкі Тэкля — з вядомага на Беларусі роду Ратамскіх. За сталом 6 стулаў — 6 членаў сям'і: Людвік і Тэкля і чацвёра дзяцей.

Ідзём у наступны пакой. Партрэты Касцюшкі, яго дзеда Амбражэя і бабулі Барбары. А вось рэканструяваны строй XVIII ст. У такі апраналася маці Тадэвуша.

Пераходзім у рабочы кабінет бацькі. «Бацька Тадэвуша Касцюшкі Людвік Тадэвуш Касцюшка-Сяхновіцкі меў званне мечніка берасцейскага, ганаровага палкоўніка ВКЛ, але ў арміі ніколі не служыў, — адзначае Наталля Сушко. — Усё жыццё ён прысвяціў выратаванню радавога маёнтка Сяхновіцы, або Сяхновічы, якое знаходзілася ў Берасцейскім ваяводстве, а цяпер — у Брэсцкай вобласці, Жабінкаўскі раён. Маёнтак абяднеў з-за частых войнаў. Цяжкае матэрыяльнае становішча прымусіла бацьку Тадэвуша Касцюшкі перадаць радавы маёнтак свайму сваяку — Фаўсціну Бенядзікту Касцюшку. Паміж імі існавала дамоўленасць: як толькі ў Людвіка, бацькі Тадэвуша Касцюшкі, знойдзецца неабходная сума грошай, Сяхновічы яму будуць вернуты. А пакуль ён стаў арандатарам атрыманага ад Сапегаў фальварка Мерачоўшчына. З 1730 па 1739, магчыма, пачатак 40-га, паміж бацькам Тадэвуша Касцюшкі і Сапегам адбываецца нейкая судовая справа. Вядома, што Людвік яе выйграе. У 1739-м ён прывозіць у Мерачоўшчыну сваю маладую жонку Тэклю. І тут нараджаюцца іх дзеці, ладзіцца сям'я». Бацька Тадэвуша Касцюшкі Людвік быў адукаваны, шмат чытаў, добра маляваў. Дамінанта рабочага кабінета — адноўлены пісьмовы стол XIX ст. Была вялікая сямейная бібліятэка, але, на жаль, усё знішчыў пажар. Кнігі, што прадстаўлены цяпер, на польскай мове. Яны пакінуты музею прадстаўнікамі Польскай Рэспублікі.

Завяршае мемарыяльную частку экспазіцыі гасціная. У гэтым пакоі сям'я бавіла час. Любілі шахматы. Тадэвуш Касцюшка іграў на фартэпіяна. У цэнтры гасцінай — партрэт Тадэвуша Касцюшкі польскага мастака Шалкоўскага. Увагу звяртае карціна «Дом Тадэвуша Касцюшкі» Якава Янчанкі, у мінулым дырэктара Косаўскай сярэдняй школы. У гады Вялікай Айчыннай вайны Я. Янчанка страціў правую руку, але талент не згас. Гэта адна з яго работ, выкананая левай рукой. Яшчэ невялікая карціна аўтара Сяледчанкі. На ёй застылі вобразы Тадэвуша Касцюшкі і яго каханай Людвікі Сасноўскай.

> *У гады Вялікай Айчыннай вайны, у 1944 годзе, аднапавярховы драўляны дом Касцюшак-Сяхновіцкіх згарэў. Застаўся толькі разбураны фундамент. І да 1987 года не было ніводнага памятнага знака, які б сведчыў пра тое, што менавіта ў гэтым краі нарадзіўся вялікі сын беларускай зямлі, Нацыянальны герой Польшчы і Амерыкі, ганаровы грамадзянін Францыі Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка.*

Другая частка экспазіцыі — гістарычны пакой. І — звесткі з біяграфіі Касцюшкі, якія і сёння хвалююць і не даюць спакою даследчыкам, прымушаючы разважаць і спрачацца над рознымі версіямі. «У гэтым доме 4 лютага 1746 года нарадзіўся Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка-Сяхновіцкі, — зазначае дырэктар музея Наталля Сушко. — У героя тры імені. Імя Андрэй ён атрымлівае ў дзень нараджэння, 4 лютага, паколькі ў гэты дзень па каталіцкім календары святкавалі святога Андрэя Карсіні. Другое і трэцяе імя — Тадэвуш і Банавентура — ён атрымлівае ў дзень свайго хрышчэння — 12 лютага: па каталіцкім календары ў гэты дзень адзначалі дзень святых Тадэвуша і Банавентуры. Хрысцілі Касцюшку ў Косаўскім касцёле Святой Троіцы. Пра гэта сведчыць метрыка — адзіны дакумент, які пацвярджае, што Касцюшка быў хрышчоны і народжаны на гэтай зямлі (фотакопія метрыкі хрышчэння (запіс у касцёльнай кнізе) прадстаўлены ў нас у экспазіцыі, а арыгінал — у Варшаве, у Нацыянальным музеі). Тая купель знаходзіцца ў касцёле Святой Троіцы Косава. У Тадэвуша Касцюшкі два прозвішчы — Касцюшка-Сяхновіцкі. Першы вядомы прадстаўнік роду — Фёдар. У яго быў сын Канстанцін, якога ласкава называлі Косцікам, Касцюшкам. Усё проста. Гэта форма імені легла ў будучыні ў аснову роду Касцюшкаў. Другое прозвішча — Сяхновіцкі — звяртае нашу ўвагу на імя Канстанціна, якому Жыгімонт І Стары падарыў Сяхновічы. Пра гэта сведчыць Прывілей (дароўная) 25 красавіка 1509 г., копія якога ў нас прадстаўлена да разгляду (арыгінал — у Варшаве, у Нацыянальным музеі)».

Пра дзяцінства Тадэвуша Касцюшкі вядома няшмат. Да 9-гадовага ўзросту ён, як і ўсе дзеці шляхты, атрымліваў адукацыю дома. Пасля яго разам са старэйшым братам Юзафам накіроўваюць у Любяшоў, што на Украіне, у калегіум піяраў. Але завяршыць вучобу не атрымалася: у 1758 годзе нечакана паміраe бацька. Тадэвуш з братам вяртаецца ў Мерачоўшчыну на дапамогу маці. Але яна адпраўляе сыноў назад заканчваць вучобу. Сама ж прадае гэтую сядзібу. І, як тлумачыць дырэктар музея, на атрыманыя грошы выкупае маёнтак Сяхновічы. Гэтым выконвае волю мужа — знайсці грошы для вяртання фамільнага радавога маёнтка. «Можам зрабіць вывад, што Тадэвуш Касцюшка тут, у Мерачоўшчыне, быў народжаны і пражыў да ўзросту 9 гадоў, калі бацькі адправілі яго ў Любяшоў. А ўжо пасля вучобы ў Любяшове ён з братам вяртаецца ў радавы маёнтак Сяхновічы», — заключае дырэктар.

Наступны адукацыйны крок — Варшава, корпус кадэтаў (яшчэ называўся рыцарскай школай). Тут фарміруецца натура Касцюшкі: настойлівы, энергічны, авантурны. Шмат часу аддае самаадукацыі, многа чытае. Эканоміў на сне. Дырэктар музея распавяла цікавыя падрабязнасці. Кладучыся спаць, Касцюшка браў вяроўку. Дзіўна. Адзін канец прывязваў да нагі, другі аддаваў дзяжурнаму па калідоры. І той у 4 гадзіны раніцы цягнуў за вяроўку — Касцюшка прачынаўся. Каля ложка — таз з халоднай вадой: акунуць ногі, каб сон сышоў канчаткова. І зноў за чытанне. Працалюбівасць, настойлівасць далі Касцюшку магчымасць праз год вучобы атрымаць першае афіцэрскае званне — чын харунжага.

Яго асоба ўражвае шматграннасцю. Валодаючы яскравым ваенным, палітычным талентам, Касцюшка раскрыўся як творца. Выдатна маляваў. У гістарычным пакоі можна ўбачыць фотакопіі яго работ, выкананых у Парыжскай акадэміі жывапісу і скульптуры (1769 — 1774 гг.). Вядома, што Кацярына ІІ падарыла Касцюшку такарны станок. Касцюшка хутка навучыўся майстраваць. Рэканструкцыі яго работ прадстаўлены ў экспазіцыі. Так, попельніцу аднавіў у 2007 г. М. У. Пашкілевіч з г.п. Мір, урну — У. Г. Шастак з г. Баранавіч.

Гістарычны пакой увогуле вельмі насычаны. Тут мноства каштоўных экспанатаў. Адразу трапляецца на вочы шабля (копія, Польшча, 2007 г.), якую Касцюшку падарыў Павел І. Касцюшка пакляўся Паўлу І, што ніколі яго шабля не падымецца над галавой рускага чалавека. Сёння шабля — пацвярджэнне тых падзей. Кубак Т. Касцюшкі (аўтар І. В. Якушэнкаў, г. Баранавічы, 2007 г.), гадзіннік наручны з яго выявай (перадаў мясцовы краязнаўца А. Ф. Зайка), банкноты 1919—1920 гг. з партрэтам Касцюшкі… Можна ўбачыць таксама, як выглядаюць грош і паўгрош Рэчы Паспалітай 1767 г., 1777 г., 10 пфенінгаў 1889 г. Германіі, паўкапейкі срэбрам 1841 г. Расіі. Рэчы збіраліся з моманту археалагічных раскопак на месцы спаленай сядзібы Т. Касцюшкі., з 2003 г. Ад некаторых экспанатаў дрыжыкі па скуры. Косы касінераў — тая самая зброя сялян-паўстанцаў канца XVIII ст., якія ўдзельнічалі ў паўстанні 1794 г. Рэканструяваў і перадаў гэтую зброю У. М. Кунік з Баранавіч. Побач адзенне паўстанцаў — сукмана і сярмяга (перадаў У. М. Кунік). Ківер — сучасная амерыканская кадэцкая шапка (з ваеннай акадэміі ЗША, г. Уэст-Пойнт, 2006 г.) — выглядае надзвычай эфектна. З горада Уэст-Пойнт, штат Нью-Ёрк, ЗША (тут Тадэвуш Касцюшка пабудаваў ваенную абарончую цытадэль, за што Джордж Вашынгтон узнагародзіў яго ордэнам Цынцыната) прадстаўлены камень. Цікава ўбачыць таксама камень з музея Т. Касцюшкі ў Швейцарыі (г. Салатурн), камень з гары Касцюшкі ў Аўстраліі (штат Новы Паўднёвы Уэльс). Нельга ў адным артыкуле асвятліць усе цікавосткі музея — гэты помнік архітэктуры трэба наведаць.

Калі звярнуцца да радаводнага дрэва сям'і Касцюшкаў (а яно ў музеі вельмі выразнае), можна прасачыць, што мужчынская лінія спыняецца на Тадэвушы Касцюшку. Ён пражыў 71 год (здавалася б, не кароткае жыццё), але не стварыў сям'і, не пакінуў пасля сябе дзяцей. Старэйшы брат Юзаф, на жаль, памёр ва ўзросце 46 гадоў і таксама не стварыў сям'і. Сёстры Ганна і Кацярына стварылі сем'і, мелі дзяцей, але пайшлі ў жыццё пад прозвішчамі мужоў (Ганна Эстка, Кацярына Жулкоўская). Такім чынам, доўга праіснаваўшы на беларускай зямлі, род Касцюшкаў абрываецца на імені чалавека, які гучна заявіў пра гэты род на ўсю зямлю.

Сокала відаць па палёце. Міхал Клеафас Агінскі, кампазітар, падскарбій ВКЛ, пісаў, што Тадэвуш Касцюшка «карыстаўся вялікай пашанай усёй Еўропы, быў гразой для ворагаў і бажаствам для народа…» А сам Касцюшка адзначаў: «Трэба заўсёды памятаць, што ўсе мы па прыродзе роўныя, што толькі багацце і адукацыя робяць нейкую розніцу, што мы абавязаны клапаціцца пра бедных і прасвятляць цёмных».

**Наталля СВЯТЛОВА**

## Фоташтрых

**У вёсцы Калодзезнае Капыльскага раёна ўсталяваны помнік у памяць пра мясцовых жыхароў, загінуўшых 9 лютага 1943 года. У гэты дзень фашысцкія карнікі спалілі вёску разам з людзьмі. Ахвярамі сталі 199 чалавек…**






Мемарыяльны помнік з'явіўся дзякуючы ініцыятыве Віктара Дашкевіча, для якога Калодзезнае — родная вёска. Віктар выношваў ідэю некалькіх гадоў, раіўся з роднымі загінуўшых. Быў адкрыты разліковы рахунак у банку, куды паступалі дабраахвотныя ахвяраванні.

Аўтар помніка — член Саюза мастакоў Беларусі Уладзімір Швайбовіч. Разам з Віктарам Дашкевічам і з дапамогай некаторых вяскоўцаў, а таксама жыхароў Капыля давёў задуманае да канца.

Цырымонія адкрыцця помніка на пачатку снежня адбылася з удзелам пасла Германіі ў Беларусі Петэра Дэтмара.

## Спадчына

# Саламянае золата

## У Цэнтры дадатковай адукацыі для дзяцей і моладзі «Ветразь» рамяству можна навучыцца за тры гады

**Тут працуе аб'яднанне па інтарэсах «Чароўная саломінка» — лаўрэат і дыпламант шматлікіх гарадскіх, рэспубліканскіх, міжнародных конкурсаў ды фестываляў.**

Лялькі, аплікацыі і пано, падвясныя павукі-абярэгі, капелюшы, сумкі і посуд… З саламянага золата можна зрабіць так многа прыгожых і цікавых рэчаў! Каб у гэтым пераканацца, варта завітаць у студыю, дзе займаюцца юныя майстры. Кіраўнік аб'яднання Алена Таляронак імкнецца рознымі сродкамі зацікавіць дзяцей культурнай спадчынай, перадаць любоў да гісторыі і традыцый роднага краю. Заняткі наведваюць як вучні пачатковых класаў, так і выпускнікі.

— Салому, якая заўсёды лічылася сімвалам урадлівасці, вельмі шанавалі нашыя продкі, — распавяла Алена Таляронак. — Гэты матэрыял мае адметныя прыродныя якасці — мяккасць і пластычнасць у вільготным стане, непаўторны глянцавы колер з мноствам адценняў… Вырабы з саломы здавён шырока ўжываліся ў гаспадарцы, побыце і абрадах. Папулярныя яны і сёння, бо сваёй прыгажосцю і вытанчанасцю не саступаюць творам з больш каштоўных і дарагіх матэрыялаў.

Навучанне рамяству ў аб'яднанні доўжыцца тры гады. Пачынаюць звычайна з невялікіх пляцёнак, выкананых у пучковай тэхніцы, паступова пераходзячы да больш складаных і аб'ёмных. Падчас заняткаў юныя майстры вывучаюць звычаі і абрады беларусаў, знаёмяцца з традыцыйнай матэрыяльнай культурай. Многія работы падрыхтаваны да беларускіх казак, прыказак і прымавак, свят народнага календара — Калядаў, Юр'я, Дажынак.

У творах арганічна спалучаюцца народныя традыцыі і сучаснасць: прыёмы, назапашаныя стагоддзямі, дапаўняюць найноўшыя тэхнікі. Вырабы не толькі радуюць сяброў ды блізкіх, але і дэманструюцца падчас разнастайных выставак, разыходзяцца па ўсім свеце ў якасці сувеніраў ды падарункаў. Адметна, што некаторыя выпускнікі і праз гады не забываюць рамяство: хобі ператвараецца ў асноўны занятак.



*Калектыўная работа «Снегавік».*

На рахунку калектыву — удзел у гарадскіх, рэспубліканскіх, міжнародных конкурсах ды фестывалях: «Сузор'е», «Залатая саломка», «Калядная зорка», «Скарбы прабабулінага куфэрка», «Калядны дэкор» ды інш. А будучым летам у «Ветразі» будзе працаваць Школа адраджэння нацыянальных традыцый, у межах якой пройдуць шматлікія мерапрыемствы, выстаўкі і майстар-класы, у тым ліку і па саломапляценні.



*Дар'я Ткачук «Кветка для матулі».*

**Ганна ПАЛЯКОВА**

## Млын навін

# Непаўторнымі маршрутамі

Больш як 150 унікальных прадметаў з фондаў Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны прадстаўлены на выстаўцы «Зброяй сатыры»: плакаты, газетна-часопісная сатырычная графіка, насценныя газеты і замалёўкі партызанскіх мастакоў у жанрах палітычнай і бытавой сатыры, асабістыя рэчы мастакоў-карыкатурыстаў, «лясная» паліграфічная тэхніка ва ўзноўленым інтэр'еры партызанскай друкарні.

У трох тэматычных раздзелах выстаўкі паказаны разнастайныя формы і сродкі агітацыйна-прапагандысцкай працы, разгорнутай на акупаванай тэрыторыі Беларусі. Прынамсі, у экспазіцыі першага раздзела — «Агітацыйны плакат у жанры карыкатуры ў творчасці мастакоў-плакацістаў» — можна ўбачыць рэпрадукцыі плакатаў «Окна ТАСС», у тым ліку тры арыгінальныя, падораныя Кукрыніксамі музею ў 1970 годзе. Раздзел «Партызанскі вернісаж» заснаваны на рарытэтных выданнях партызанскіх баявых лісткоў, насценных газет, рукапісных часопісаў.

* * *

На гістарычным факультэце Белдзяржуніверсітэта вядзецца праца па ўключэнні ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей двух нематэрыяльных элементаў нацыянальнай культуры. Гэта страва пад назвай капыткі ды народны абрад «Варваркі», папулярныя ў Глыбоцкім раёне. Вывучэннем нацыянальных традыцый і арганізацыяй экспертных адзнак займаецца аспірант кафедры этналогіі, музеялогіі і гісторыі мастацтва Дзяніс Філіпчык.

Капыткі — даволі рэдкая страва ў меню беларусаў. З'явіўся гэты бульбяны ласунак у другой палове XIX стагоддзя і сёння далучаны да лакальных страў. Капыткі гатуюць не ў кожным гісторыка-этнаграфічным рэгіёне Беларусі. Існуюць рэгіянальныя асаблівасці рэцэптуры, падачы і ўжывання гэтай ежы.

Унікальны абрад «Варваркі» захаваўся толькі на Віцебшчыне. У прыватнасці, у вёсцы Шунеўцы Глыбоцкага раёна, хаця раней быў распаўсюджаны па ўсёй этнічнай тэрыторыі Беларусі. Праводзіцца абрад з мэтай прадухілення бяды, якая пагражае вёсцы: з яго дапамогай змагаліся з эпідэміямі, пажарамі, неўраджаямі.

Цікава, што ў Глыбоцкім рэгіёне пад аховай дзяржавы значацца чатыры элементы нематэрыяльнай культурнай спадчыны.

* * *

Кнігі, дакументы, рукапісы, фотаздымкі знакамітых землякоў, матэрыялы пра дзейнасць літаратурна-музычнага клуба «Выток» прадстаўленыя на выстаўцы «Лепельшчына літаратурная: вядомая і малавядомая», якая працуе ў Лепельскім раённым краязнаўчым музеі.

На Лепельшчыне нарадзіліся пісьменнікі і паэты Анатоль Вярцінскі, Тодар Кляшторны, Сяргей Рублеўскі. З гэтымі мясцінамі звязаны лёс Петруся Броўкі, Еўдакіі Лось, Яўгеніі Рутман. Тут жыў і працаваў бела-рускі і польскі паэт-фальклярыст Ян Чачот, паэтэса Тадзіяна Кляшторная і іншыя. Супрацоўнікі музея прапануюць выкладчыкам беларускай літаратуры праводзіць на базе выстаўкі заняткі.

* * *

Унікальныя турыстычныя маршруты прадставілі раёны Магілёўшчыны на прафсаюзнай экскурсійна-турыстычнай выстаўцы «Прафтур-2016», якая ладзілася ў Мінску. Энтузіясты прапанавалі варыянты для развіцця турызму ў рэгіёнах. Прадстаўнікі Клічаўскага раёна распрацавалі маршрут «У партызанскую зону» з наведаннем музея, гістарычнай экскурсіяй па Клічаве і месцах баявой славы, падарожжам да мемарыяльнага комплексу «Усакіна»…

Экскурсійныя маршруты распрацоўвалі на працягу 2015 года аб'яднанні прафсаюзаў. На падставе арыгінальнага матэрыялу будзе выдадзены зборнік з картай унікальных турыстычных маршрутаў у кожным раёне.

# На вяршыні феерычнага хараства

## Бакст: мастак-рэвалюцыянер, стваральнік новай сцэнічнай эстэтыкі



Танцаўшчыца з балета «Жар-птушка».

Хто мог падумаць у сям'і гродзенскага камерсанта Ізраіля Розенберга, што яго сын Лейб-Хаім, які нарадзіўся 150 гадоў таму 8 лютага (па іншых звестках 9 мая), стане самым славутым тэатральным мастаком пачатку XX ст. Неўзабаве сям'я будучага мастака пераехала ў Санкт-Пецярбург да яго дзеда, які меў там трывалае жытло і працу. Ці засталіся ў гэтага таленавітага хлопчыка якія-небудзь успаміны пра родны горад над Нёманам? Толькі гіпатэтычна можна меркаваць, што выключна маляўнічае наваколле горада магло знайсці свой шматасацыятыўны адбітак у выдатных дэкарацыях да тэатральных пастановак «Элізіум» (1906), «Дафніс і Хлоя» (1912) і інш., дзе ўражваюць загадкавыя пагоркавыя краявіды, пакрытыя чароўным дыванам раслін.

Між тым творчасць Льва Бакста (такі творчы псеўданім абраў для сябе мастак у 1880-х гг.) на яго беларускай радзіме ніколі не забывалі. У 3-м томе «Гісторыі беларускага мастацтва» (1989) ён характарызуецца як адзін з лідараў наватарскага мастацкага аб'яднання «Мир искусства». Ва ўспамінах пра Марка Шагала, вучня Льва Бакста ў Санкт-Пецярбургу, віцебскі краязнаўца Аркадзь Падліпскі прыгадвае пра 1910 г., калі славуты настаўнік і таленавіты вучань разам працуюць над дэкарацыямі да балета «Нарцыс» у праграме «Рускіх сезонаў у Парыжы» пад кіраўніцтвам Сяргея Дзягілева. У навукова-папулярным зборніку пра мастацкае жыццё Гродна (1989) таксама ёсць шматлікія цёплыя радкі пра Льва Бакста, які прынёс сваім нараджэннем вялікі гонар гораду поруч са славутымі мастаком-баталістам Януарыем Сухадольскім і скульптарам Львом Гінзбургам. У першым энцыклапедычным томе «Культура Беларусі» (2010) змешчаны асобны артыкул пра гродзенскія вытокі і творчыя здабыткі Льва Бакста як стваральніка новай мастацкай эстэтыкі. Не забывалі пра славутага мастака і расійскія мастацтвазнаўцы, пра што сведчыць найбольш грунтоўная манаграфія «Леў Самойлавіч Бакст» І. М. Пружан (1975). Несумненна, у наш час патрабуецца больш сучаснае асэнсаванне творчасці славутага сцэнографа, жывапісца і графіка, бо вялікае, як кажуць, з адлегласці яшчэ больш шматгранна праяўляецца.

Тым больш што, перажыўшы сваё выключнае прызнанне ў 1900 — 1920-х гг., вобразныя адкрыцці мастака працягваюць сваё выразнае жыццё ў эскізах касцюмаў і дэкарацый, у партрэтах, кніжнай графіцы, станковых кампазіцыях і інш. Працуючы ў Парыжы ў трыумфальны час славутых «Рускіх сезонаў», Леў Бакст стварыў шэдэўры сцэнаграфічнага вырашэння такіх векапомных пастановак, як «Клеапатра» (1909), «Шахеразада» (1910), «Карнавал» (1910) і інш. Яго касцюмы для Вацлава Ніжынскага, Іды Рубінштэйн і іншых таленавітых майстроў сцэны сталі непараўнальным прыкладам сапраўднай эстэтычнай рэвалюцыі ў балетнай творчасці, якія ўскалыхнулі найвышэйшую хвалю пошукаў хараства новага стагоддзя. Унікальнасць і наватарства яго сцэнічных касцюмаў і ў тым, што яны разнявольваюць агаленае цела танцораў і танцоўшчыц для зусім новых балетных рухаў і скокаў, якіх яшчэ не ведала тэатральная сцэна. Гэтыя шматлікія касцюмы па сённяшні дзень з'яўляюцца ўзорам сінтэзу еўрапейска-ўсходняй творчай фантазіі, якая злучае розныя эпохі і стылі ў вялікім аўтарскім стылі Льва Бакста. Касцюмы, дэкарацыі, музыка і танец стварылі максімальна насычаную феерыю вобразнай свабоды і палёту натхнення. Мастак пераканаў свет, што на культурнай глебе Усходняй Еўропы можна аб'ядноўваць лепшыя праявы хараства Усходу і Захаду.

Асабістае жыццё мастака, нягледзячы на вялікі творчы поспех, было далёка не ідылічным. Яго шлюб з Любоўю Грыцэнка, дачкою славутага калекцыянера рускага мастацтва Паўла Траццякова, не стаў трывалым і быў скасаваны ў 1910 годзе. Сын Андрэй (1907 — 1972) таксама праявіў сябе як тэатральны мастак, але не паўтарыў поспеху свайго бацькі. З Сяргеем Дзягілевым ён разышоўся па творчых меркаваннях, бо не мог доўга зносіць максімалізму патрабаванняў свайго неўтаймаванага калегі. Больш цёплыя адносіны былі ў яго да Іды Рубінштэйн, якая стварыла ў 1920 г. сваю самастойную балетную суполку. Падчас рэпетыцыі ў 1924 г. мастак занямог, і яго жыццё раптоўна абарвалася.

У наш час спадчына Бакста ўспрымаецца не толькі дасканалым сцэнаграфічным узорам, але і заклікам да далейшага спасціжэння каштоўнасцей свету, якія квітнеюць у розных вядомых і менш вядомых культурах. Не пакідае шчырае жаданне, каб гэты юбілейны год стаў этапным для мадэрнізацыі творчых ідэй Льва Бакста на айчыннай культурнай глебе — на выставах, пленэрах, сцэнічных пастаноўках, мастацтвазнаўчых лекцыях, паэтычных прысвячэннях, у новых дакументальных кінастужках, у мемарыялізацыі назваў вуліц… Усё гэта дапаможа нам яшчэ раз усвядоміць, што мы жывём на радзіме вялікіх творцаў і іх яскравае святло натхнення не можа не кіраваць нашымі сучаснымі задачамі культурнага самасцвярджэння і развіцця.

**Людміла НАЛІВАЙКА,**
**Яўген ШУНЕЙКА**

### Дзе паглядзець?

• У Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры Рэспублікі Беларусь: у балетах «Шахеразада» М. Рымскага-Корсакава, «Тамар» М. Балакірава, «Жар-птушка» І. Стравінскага аднаўленая сцэнаграфія і касцюмы паводле ацалелых фотаздымкаў, малюнкаў ці эскізаў Льва Бакста.

• Творы Льва Бакста знаходзяцца ў карпаратыўнай калекцыі «Белгазпрамбанка», які валодае на сёння самым вялікім зборам станковых твораў мастака ва Усходняй і Цэнтральнай Еўропе.

• З 10 лютага — на выстаўцы ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, прысвечанай 150-годдзю творцы.

## Культурны ракурс



Калі задумацца, якія мясціны ў Беларусі я наведваю часцей за іншыя, адказ будзе відавочны: Заслаўе. Гэта найлепшае месца, каб хутка і з прыгодамі збегчы са сталіцы ў вольны час — асабліва цяпер, калі сюды ходзяць хуткасныя цягнікі.

У Заслаўі прываблівае многае. Велічныя замкавыя валы і бялюткая рэнесансная царква між імі, цудоўны музей-запаведнік са старым млыном. А за горадам — шматлікія абарончыя збудаванні Мінскага ўмацаванага раёна, дзе ў 1941 годзе гераічна змагаліся абаронцы Мінска.

З'яўляюцца ў Заслаўі і новыя цікавыя выбітнасці — прыкладам, мая ўлюбёная скульптура, якая паказвае княгіню Рагнеду і яе сына Ізяслава. Хацелася б бачыць падобныя помнікі славутым асобам у кожным мястэчку Беларусі.

**Антон РУДАК**

*Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас* **lim_new@mail.ru** *з пазнакай* **«Культурны ракурс»** *— лепшыя будуць апублікаваныя на старонках газеты!*

*Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфавацца каля яго. Прымаюцца і работы, зробленыя ў жанры сэлфі.*

*Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа даслаць некалькі фота. Пры адборы работ будуць улічвацца не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэксту-тлумачэння.*

*Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!*

ЛіМ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар
Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 4.02.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1978.

Кошт у розніцу — 4100 рублёў

Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 560

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686